# БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР



ШТОМЕСЯЧНАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ.




№ 4. Орган ЦК ЛКСМБ і Наркамасьветы БССР. 1926 г.

# Парады павадыру зьвяна.

**Як падагульніць зімовую працу.**

Надыходзіць лета. У гэты час трэба ўжо праводзіць падрыхтоўчую працу для таго, каб летнюю працу праводзіць як мага лепш. Першае і галоўнае з чаго пачаць—гэта падагульніць зімовую працу.

Падагуленьне зімовай працы павінна даць у ватрадзе поўны і яскравы малюнак, што зроблена атрадам за зімовы пэрыод, якія маюцца дасягненьні і недахопы.

Гэткім прыкладным падагуленьнем зімовай працы павінна быць

**Выстаўка.**

Выстаўку зробленай за зімовы пэрыод працы можна зрабіць у ватрадзе, але калі піонэрам гэта цяжка, тады лепей аб'яднацца некалькім, напрыклад, 3-4 атрадам і зрабіць выстаўку разам. Для выстаўкі трэба пазьбіраць усе матэрыялы, якія маюцца ў атрадзе, напрыклад: дзеньнікі зьвеньняў, дзеньнікі атраду, усе насьценныя газэты за зімовы пэрыод, зарысоўкі, якія рабіліся піонэрамі і г. д.

Увесь гэты матэрыял пазьбіраць у вадным месцы, у клюбе атраду або ў клюбе школы з такім разьлікам, каб на выстаўку маглі прыходзіць і бацькі піонэраў і неарганізаваныя дзеці.

Што павінна паказаць выстаўка з праробленай атрадам працы?

Раней усяго аб здароўі піонэраў. Для гэтага трэба раней правесьці мэдыцынскі агляд усіх піонэраў. Потым намаляваць дыяграмы,—колькі маецца хворых піонэраў і якімі хваробамі.

Разам з гэтым можна намаляваць дыяграму на тэму: колькі праведзена гульняў атрадам, колькі было гутарак на тэму аб санітарыі і гігіене, якія агляды праводзіліся санітарным зьвяном, якія далі вынікі гэтыя агляды і г. д.

Другой часткай выстаўкі павінна зьяўляцца высьвятленьне працы піонэраў у школе. Гэта таксама можна паказаць на дыяграмах, у якіх трэба запісаць: колькі піонэраў вучыцца ў школе, у якіх групах, колькі піонэраў не пасьпяваюць у занятках.

Трэба яшчэ зрабіць і тое, каб выстаўка магла паказаць, якую агульна-практычную працу праводзіў атрад.

Для гэтага трэба выпісаць лічбы, колькі разоў зьвеньні прыходзілі на фабком, хату-чытальню, сельсавет, і якую працу там праводзілі.

Вялікую ўвагу трэба зьвярнуць на працу сярод неарганізаваных дзяцей.

Калі атрад праводзіў працу кепска, гэта павінна паказаць выстаўка і затым трэба зрабіць падлік, колькі неарганізаваных ўвашло ў атрад за зімовы пэрыод, як неарганізаваныя хадзілі на заняткі зьвяна і атраду, колькі і якія гутаркі праводзіліся з „не піонэрамі“, экскурсіі, вечары і інш. Можна таксама запісаць асобныя выпадкі, чаму не ўвашлі неарганізаваныя дзеці ў піонэры, па якой прычыне.

Вось галоўныя пытаньні, якія павінны быць добра паказаны атрадам або некалькімі на выстаўцы. Гэта ня ўсё, трэба яшчэ не забыцца падагуліць працу сярод акцябрат—там, дзе яны маюцца пры атрадзе, працу па корэспондэнцыях у газэты і часопісі, выпіска газэт, піонэрскіх часопісяй і г. д.

Цяпер—

**Як організаваць выстаўку.**

Ня трэба рыхтаваць матэрыялы для выстаўкі за два, тры дні, ад гэткай падрыхтоўкі і выстаўка будзе няцікавай.

Матэрыялы для выстаўкі павінны падбірацца за ўвесь зімовы пэрыод працы атраду. Трэба імкнуцца не праўвялічваць дасягненьняў працы атраду, не маўчаць, калі ёсьць якія-небудзь недахопы, ад гэтага атраду будзе ня лепш, а нават і горш.

Другой часткай будзе—

**Справаздачны вечар.**

На гэтым і раней добра зробленым вечары трэба зрабіць справаздачу павадыра аб працы атраду, калі ёсьць магчымасьць падрыхтаваць інсцэніроўку, запрасіць бацькоў піонэраў. Гэткі вечар таксама скарыстаць для высьвятленьня бацьком значэньня піонэр-атрада, расказаць аб дасягненьнях, не маўчаць і пра недахопы.

Усю падрыхтоўку да выстаўкі і да вечару трэба даручыць своячасова зьвеньням.

Апрача справаздачы, трэба зрабіць даклад аб зімовай працы і

**У ячэйцы КСМ.**

Комсамольцы павінны таксама быць добра знаёмы з працай атраду за зімовы пэрыод і з плянам працы летняга пэрыоду.

Дапамога ячэйцы КСМ павінна быць забясьпечана, а гэта можна тады, калі мы своячасова там паставім пытаньне.

Калі ўсё сказанае вышэй будзе зроблена, то да летняй працы мы будзем ляпей падрыхтаваны і зможам поўнасьцю выканаць стаячыя перад намі задачы.

**Міхась.**

---

# З Ь М Е С Т.

1) Веснамай—верш **А. Якімовіча.** 2) *** —верш **В. М.** 3) З гісторыі сьвята 1-га мая—арт. **М. Лабадаева.** 4) Ільліч на сьвяце 1-га мая. 5) Першамайская песенька—**В. Князева.** 6) Маё першае мая—адрывак з ап. **П. Кудзелі.** 7) Чырвоны сьцяг. 8) 1-ае мая ў мінулым годзе—мал. **М. Таўбэ.** 9) Рак-вусач—казка **Я. Коласа.** 10) Зьвер на волі—з расійскага ў апрацоўцы **Л. Шафаловіч.** 11) Наша жыцьцё—допісы і творчасьць дзяцей. 12) Экскурсія ў каўбасную—**К. Шапялевіч.** 13) Квіток—верш **А. Паўловіча.** 14) 5 год „Чырвонай Зьмены“. 15) Дзіцячы рух ва ўсім сьвеце. 16) Гульні. 17) Наша перапіска. 18) Аб піонэрскай творчасьці—арт. **А. Я—віча.** Вокладка: Парады павадыру зьвяна—арт. **Міхася.** У часе адпачынку. Малюнкі і фотографіі ў часопісі мастакоў: **П. Гуткоўскага, Я. Кашкеля, А. Тычыны.**

Менск 1-ая Дзяржаўная друкарня. Зак. № 2493—2000. Галоўлітбел № 17230.




УМОВЫ ПАДПІСКІ:
на 12 м. . . 2 р. 40 к.
на 6 м. . . 1 р. 20 к.
на 3 м. . . — 60 к.
на 1 м. . . — 20 к.

ШТОМЕСЯЧНАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ
ОРГАН
ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
Менск, Пляц Волі,
Наркамасьветы БССР
— тэлефон № 443. —

**№ 4. КРАСАВІК 1926 г.**

Дэмонстрацыя піонэраў 1-га мая.

# Веснамай

Піонэрскай вольнай раці
Не сядзець сягоньня ў хаце,—
Выйдзем маю на спатканьне
Сьвяту працы і змаганьня...

Паўбіраліс ў лузе краскі
Ды убраньнем веснамайскім.
Краскі чырваньню зіяюць,
К сабе дзетак заклікаюць:

„Ой вы, дзеткі, сонца кветкі,
Выхадзеце на палеткі,
Заклікайце ўсіх дзяцей
Спатыкаці майскі дзень“.

Мы адкажам мілым краскам
Сваёй песьняй, сваёй ласкай:
„Любім, красачкі, мы вас,
Любім вольны, сьветлы час!“

А як сонца запытае:
„Вы з якога, дзеці, краю?“
Адказаць мы сонцу мусім:
„З Піонэрскай Беларусі!“

Мы, сыны сям'і працоўнай,
Сілы сьвежае мы поўны:
Мы з вясной к табе ідзём
З маладым сваім жыцьцём.

Сьцяг наш чырваньню спавіты,
Сьцяг наш родны, самавіты!
І за вольнасьць на ўсім сьвеце
Беларусі вышлі дзеці.

А. Акімовіч

---

* * *

Выхадзі, піонэрская рать,
На прасторах маёўку спраўляць.
Наша сонца сягоньня гарыць
Цьветам яркім румянай зары.
На прасторах зялёных палёў
Ўсё цьвіце—расквітае, жыве.
Ўсюды радасьць і звон галасоў.
Ўсіх прывольле сягоньня заве.

* * *

А яшчэ так нядаўна... учора
Тут лілася рабочая кроў...
І стагнаў пад ударамі горад,
І стагналі прасторы дуброў,
О, цяпер, мы цяпер не забудзем,
Не забудзем аб тым, што было—
Хай абнімуцца новыя людзі
І абнімецца горад з сялом...

* * *

Сёньня радасьць б'е у грудзі.
Сёньня людзі, ўсюды людзі...
Сёньня родны край цьвіце...
Сёньня вольны Май заве.

В. М.



# З гісторыі сьвята І-га мая.

Надыходзіць сьвята 1-га Мая...

Піонэры добра памятаюць тое, як у мінулым годзе яны рыхтаваліся да гэтага сьвята, як разам з школьнікамі хадзілі на дэмонстрацыю і сьпявалі першамайскія песьні; было прыемна і весела. Асабліва, калі ўсе разам дружна падхватвалі:

...Ліся, песьнь мая
Першамайская...

Дзеці з дзіцячых дамоў помняць, што ў гэты дзень ім давалі смачнейшы абед і што ўвечары яны наладжвалі спэктаклі й гульні.

У вясковых атрадах таксама адбываліся дэмонстрацыі. Па школах на вечарох гутарылі аб гісторыі гэтага сьвята.

Кожны з нас добра помніць тое, што было ў мінулым годзе. Бо мы самі прымалі чынны ўдзел у сьвяткаваньні гэтага дню. Але, бадай што, ня ўсе ведаюць добра аб гісторыі 1-га Мая, ня ведаюць, як жылі рабочыя і сяляне раней і як змагаліся за сваё жыцьцё з буржуазіяй.

Цяпер словам „буржуй“ у нашых атрадах лаюцца. А раней, да рэволюцыі, буржуі былі ўладарамі над рабочымі і сялянамі ў нашай краіне. Ды і цяпер ёсьць вельмі шмат яшчэ краін на сьвеце, дзе буржуі пануюць над працоўнымі. У гэтых краінах адбываецца змаганьне паміж працоўнымі і іх уладарамі—буржуямі. Пастулова гэта змаганьне дойдзе да канчатковай перамогі працоўных над буржуямі, як гэта сталася ў нас у 1917 г.

У гэтым змаганьні патрэбна організаванасьць працоўных усяго сьвету. І вось даўно яшчэ рабочыя парашылі вызначыць такі дзень, калі-б усе працоўныя выключна былі заняты справай організаваньня сіл і сродкаў для канчатковай перамогі над сваімі ворагамі.

Такім днём стаўся дзень 1-га мая.

### Пачатак сьвяткаваньня.

Сьвяткаваньне 1-га мая пачалося ў Амэрыцы. Рабочыя Амэрыкі для барацьбы з капіталістымі былі аб'яднаны ў „Амэрыканскую Фэдэрацыю (саюз) Труда“. На 4-ым конгрэсе (зьезьдзе) у 1884 г. ў г. Чыкаго гэтай організацыі рабочыя парашылі з 1-га мая дабіцца зьмяншэньня ліку працоўных гадзін да 8—з 10-12. (У буржуазных краінах і па гэты час працуюць 10—12 г.).

Гэтай пастановай рабочыя ўжо організавана і пастулова дабіваліся палепшаньня дрэннага свайго становішча.

1-га Мая 1886 г. ў Амэрыцы была організавана вялікая забастоўка,—рабочыя спынілі працу, патрабуючы пастановы аб 8 гадзінным працоўным дні.

Буржуазія аддала загад страляць рабочых і нават частка іх—правадыры—былі растрэлены.

Пасьля гэтага, ня гледзячы на гэту жорсткую расправу буржуазіі, рабочыя парашылі штогод зьбірацца ў дзень 1-га Мая для агульнай барацьбы з буржуазіяй за сваё жыцьцё. Вырашана было на далей рабіць выступленьні больш організована, бо паліцыя ніколі ня спала перад 1-ым Мая і заўсёды была падрыхтавана.

Буржуазія адчула, што сьвята Першага Мая ўсё больш і больш прыводзіць яе да пагібелі і пачала прымаць сур'ёзныя меры супроць дэмонстрацый. Большасьць правадыроў II Інтэрнацыяналу (міжнароднага саюзу рабочых) пачынаюць здраджваць справе рабочай клясы і старацца надаць сьвяткаваньню больш мірны характар.

Гэткую-ж лінію вядуць і цяпер правадыры II-га Інтэрнацыяналу. Яны пашлі памагаць буржуазіі...

Такім чынам мы бачым, што сьвята 1-га Мая становіцца ня сьвятам адпачынку, а сьвятам барацьбы, падрыхтоўкі рабочых да бойкі з буржуазіяй...

### Як праводзілася сьвята Першага Мая на Захадзе.

Звычайна буржуазія найбольш буйных гарадоў Нямеччыны старалася ўцячы з гораду к дню 1-га Мая. Яна не магла пераносіць таго, як тысячы рабочых з песьняй Інтэрнацыяналу шагаюць па вуліцы з чырвонымі сьцягамі...

У Аўстрыі к 1-му Мая рыхтаваліся нават і міністры і цар. Першага Мая баяліся яны, як сьмерці.

У іншых старонках Захаду 1-га мая праводзілася больш спакайней і мела характар больш адпачынку чым падрыхтоўку да барацьбы з буржуазіяй! Толькі ў Аўстрыі і Швэцарыі сьвяткаваньне праводзілася з вялікім посьпехам. Апавядаюць што, ў дзень 1-га Мая ў Швэйцарыі на вуліцах гарадоў нельга было ўбачыць ніводнага буржуя, усе вуліцы былі заняты рабочымі.

Калі толькі адбылася ў быўшай Расіі рэволюцыя 1905 г., сьвята 1-га Мая пачало праводзіцца з вялікім уздымам і прашло па

ўсіх краінах. Але гэта было нядоўга. Гэта цягнулася да таго часу, пакуль не раскідаўся II-гі Інтэрнацыянал—да вайны 1914 г. З гэтага часу к папярэднім запатрабаваньням і лёзунгам рабочых далучыўся яшчэ адзін лёзунг—„Прэч вайну“...

У часы вайны найбольш бурная дэмонстрацыя адбылася ў Бэрліне.

Цяпер паглядзім, як-жа праводзілася.



### Сьвята 1-га Мая ў нас у быўшай Расіі.

Першае Мая спаткала расійскіх рабочых у той час, калі ня было яшчэ сваёй партыі. Былі паасобныя, слаба аб'яднаныя наміж сабой гурткі.

Даць належнае кіраўніцтва рэволюцыйнаму ўздыму рабочых гэтыя гурткі не маглі.

З гэтай прычыны нашы рабочыя не маглі далучацца да сваіх заходніх таварышоў.

Пачатак у правядзеньні 1-га мая зрабілі рабочыя Польшчы. Польшча ў той час была далучанай да „Расійскай імпэрыі“.

Апрача гэтага, у Польшчы былі даволі буйныя прамысловыя цэнтры, як Варшава, Лодзь, і нават была свая рабочая партыя „Пролетарыят“.

### 1-га мая 1890 г.

Варшаўскія рабочыя праводзілі забастоўку. Забаставала каля 10 тысяч рабочых. Гэта сьвята застала буржуазію неўспадзеўкі для яе. Затое ў 1891 г. ў некаторых гарадох ужо адбыліся спатычкі паміж рабочымі і паліцыяй, былі забойствы і адбылося шмат арыштаў.

Паступова сьвяткаваньне пачынае абхапляць усе большы і большы лік гарадоў і ўжо к 1900 году праўдзіліся вялікія дэмонстрацыі, адбываліся забастоўкі—рабочыя ўзмоцнена рыхтаваліся да сьвята.

Пасьля падаўленьня рэволюцыі 1905 г. буржуазія павяла больш жорсткую расправу з рабочым рухам, чым гэта было раней.

Але гэта не зьявілася перашкодай для рабочых.

Рабочыя наладжвалі свае мітынгі, зьбіраліся па лясох, дзе-небудзь на палянках, распаўсюджвалі рэволюцыйныя адозвы і г. д.

У гады вайны першамайскія забастоўкі праводзяцца на буйных заводах Масквы, Ленінграду (раней Пецярбургу). К гэтаму часу ўзмацнілася партыя бальшавікоў, якая кіравала рэволюцыйным рухам рабочых.

Рабочыя праводзілі свае дэмонстрацыі з лёзунгамі: „Прэч вайну“! „Прэч царскі ўрад“! „Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!“

Толькі пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі ў 1918 г. рабочыя ў першы раз у нас вольна сьвяткавалі сваё сьвята 1-га мая пад лёзунгам: „Няхай жыве ўлада Саветаў ва ўсім сьвеце“.

Рабочыя ўсіх краёў горача адгукнуліся на перамогу рабочых у Расіі і сваёй барацьбой супроць капіталістых дапамаглі ўзмацненьню першай у сьвеце краіны Саветаў.

Пасьля таго, як былі зьнішчаны ўсе ворагі рабочых, Савецкая ўлада распачала працу па адбудове і ўзмацненьні сваёй гаспадаркі.

* * *

У 1926 г., калі мы ізноў выйдзем на вуліцу для таго, каб успомніць аб нашых братох, якія яшчэ змагаюцца за сваё вызваленьне, мы не павінны забыцца і аб тых ахвярах, якія прынесьлі працоўныя на шляху змаганьня за сваё сьвята.

Недалёкі ўжо той час, калі рабочыя і сяляне ўсіх краін будуць так-жа вольна, як і мы, праводзіць сваё сьвята 1-га мая.

М. Гападаеў



# Ільліч на сьвяце першага мая.

У 1917 годзе наша партыя ўхваліла сьляткаваць дзень міжнароднай згоднасьці працоўных усяго сьвету. Дзеля гэтага першамайскія мітынгі і дэмонстрацыі былі прыстасаваны да 18 красавіка, што пановаму стылю адпавядала 1-му мая.

Соцыял-згоднікі катэгорычна адмовіліся далучыцца да нашае пастановы і сваю першамайскую ўрачыстасьць прызначылі па календары старога стылю. Такім чынам нашай партыі, якая засталася ў адзіноцтве і, тым ня менш, якая цьвёрда пастанавіла правесьці сьвята працы асобна ад усіх астатніх палітычных груповак, у першы раз за час рэволюцыі прышлося продэмонстраваць сілы, якія за ёй стаялі.

І трэба аддаць справядлівасьць—партыі бальшавікоў удалося вывесьці на вуліцу пад сваімі сьцягамі шматтысячныя шэрагі рабочых і салдат, якія спачувалі яе палітычным лёзунгам і яе рэволюцыйнай тактыцы.

Дзякуючы сваім моцным сувязям з раёнамі і палкамі петраградзкага гарнізону, партыі ўдалося бліскуча падрыхтаваць і арганізаваць першамайскі паход (шествие).

Цэнтрам дэмонстрацыі было выбрана Марсава поле. Сюды йшлі з розных канцоў гораду, з далёкіх акраін вялікія натоўпы дэмонстрантаў, якія выступалі з нашымі плякатамі.

На вялікіх чырвоных плякатах прыкметна вылучаліся надпісі: „Далоў вайну“... „Няхай жыве міжнародная рэволюцыя“... і г. д.

Ужо зранку я быў на плошчы. Быў прыгожы сонечны дзень. Пасярэдку Марсава поля ўзвышаліся даволі вялікія аўтомобілі для цяжару, цесна напоўненыя нашай публікай. Над адным з аўто разьвінаўся сьцяг ЦК, на другім—маладыя рабочыя высока трымалі сьцяг ПК.

Гэтыя аўтомобілі выконвалі ролю рухомых трыбун, адкуль прамоўцы нашай партыі гаварылі свае прамовы.

Вакол кожнага аўтомобіля цесным колам абхінаўся натоўп рабочых і салдат. Прамовы гаварыліся адначасова з некалькіх трыбун. Вакол аднаго з аўтомобіляў пачуўся моцны і выразны голас: „Слова мае сябра Цэнтральнага Камітэту таварыш Ленін“.

Зараз-жа натоўп, які акаляў суседнія машыны, хлынуў да тае машыны, дзе ўжо паказаўся Ўладзімер Ільліч. Прамова тав. Леніна была параўнаўча кароткая, але ў ёй ён пасьпеў закрануць усе баявыя пытаньні таго моманту.

Высьвятліўшы свае адносіны да імпэрыялістычнай бойкі, ён разьвінуў ідэю міжнароднай згоднасьці рабочых, застанавіўся на крытыцы Часовага ўраду і адсюль перашоў да тлумачэньня лёзунгу аб пераходзе ўлады ў рукі Саветаў. Скончыў ён сваю прамову гучным клічам: „Няхай жыве міжнародная соцыялістычная рэволюцыя“!

Рабоча салдацкая аўдыторыя слухала свайго правадыра з нязвычайнай увагай. Шляхам напружаньня свайго голасу Ільлічу ўдалося стаць чутным усюды. Мне ў першы раз прыходзілася бачыць таварыша Леніна на шырокім масавым сходзе, ды яшчэ на вольным паветры. Павінен сказаць, што толькі тут я, як належыць, зразумеў значэньне Ільліча, як прамоўцы масавіка. Ён гаварыў нязвычайна зразумела, выбіраючы самыя простыя словы, але яго прамова сама сабою ўкладвалася ў прыгожыя і правільныя, зусім закончаныя літаратурныя пэрыоды.

Прамова Ўладзімера Ільліча зрабіла на ўсіх слухачоў моцны ўплыў. Яна была спаткана бурай воплескаў.

Апрача Ільліча, з трыбуны ЦК гаварылі т. т. Зіноўеў, Каменеў. З аднэй з трыбун прышлося выступіць і мне.

Перадаўшы прывітаньне піцерцам ад імя рэволюцыйных кронштадцаў, я сваю прамову завастрыў на ўсхваленьні Ільліча. Яшчэ ў той час не заціхлі напады на Ільліча ў сувя-

зі з легендай аб „плёмбірованым“ вагоне. Дзякуючы гэтаму мне здавалася вельмі важным выкласьці асноўную біографічную канву нашага партыйнага правадыра і ацэнку яго выдатнай політычнай ролі ў рэволюцыйным руху ўчарашняга і сенешняга дню.

Аўдыторыя выслухала прамовы з поўнай увагай.

Затым, па сканчэньні мітынгу, рабочыя і салдаты стройнымі шэрагамі са сваймі сьцягамі разышліся па раёнах.

Гэта быў першы рабочы парад, арганізаваны нашай партыяй. У радасным настроі мы вярталіся дамоў. Дэмонстрацыя 18 красавіка ў першы раз відавочна паказала, што ў Піперы нашая партыя мае за сабою буйныя сілы. Гэта надало партыі ўпэўненасьць у яе дзеяньнях і адпаведным чынам адбілася на яе тактыцы.

„Красная газета“, 1-га мая, № 99 (1844).

**Ф. Раскольнікаў.**

# Першамайская песенка.

(*На мотыў: По улицам ходила большая крокодила*).



Ў рэспубліцы Савецкай,
Ліхой і маладзецкай,
Рабочы Май,
Таварыш, спатыкай!

Мы поўны сьвежай сілы
Пад майскім небасхілам,
Ідзём, расьцём
І радасна пяём.

Віхрыся, песьня, сёньня
З нягодамі мы скончым
І ворага даб'ём
Магутным кулаком.

У хату селяніна
Пашлём сьвятло, машыну.
Машына, кніга, хлеб
Дакончаць хутка НЭП.

Бяры, ўздымай, варочай—
О, селянін, рабочы,
Каб кіраваў зямлёй,
Тваёй рукі мазоль.

Всёлы май, ты з намі,
Ўздымай-жа сьцяг над намі
І хай наш край
Цьвіце, як май!

**В. Князеў.**
(З расійск.).



# Маё першае Мая.

Мы гулялі ў дзікіх індзейцаў — гэта была для нас самая лепшая гульня. Гулялі-то мы не цяпер, а, прынамсі, ужо гадоў 25 таму назад. Цяпер у мяне ў валасох срэбныя ніткі працягнуліся, а вось тады — іншая справа.

Было гэта мне гадоў трынаццаць, малодшаму брацішку Андрэю — адзінаццаць, а мой лепшы таварыш—Ванька Доўгі, з якім мы разам вучыліся ў гарадзкой школе — маім равесьнікам быў. Для сваіх гадоў ён быў непамерана высокага росту, дзеля чаго і празвалі яго ў школе Доўгім.

Няма іх больш на сьвеце.

Брацішка загінуў у 18 годзе на белагвардзейскім фронце, на поўдні. Ванька Доўгі замучаны дзесьці ў Сібіры праклятым збродам, сворай дваранчыкаў, памешчычых сынкоў. Не, дажылі бедныя, да поўнай перамогі Савецкай улады, якой служылі чэсна. Шкада таварыша і брата... Але—бараць-бы бяз ахвор ня бывае...

Дык вось, мы гулялі ў дзікіх індзейцаў. Змайстравалі сабе галаўныя ўбёры з гусіных крыльляў, нарабілі стрэл, у кожнага за сьпіною перакінуты быў лук, твары намазалі сажаю і размалявалі мелам і вохраю,—пасьля гэтага мы выглядалі настаяшчымі цудовінамі. Але мы, добра разгледзіўшы адзін другога, засталіся вельмі задаволенымі.

І вось у такім выглядзе з суботы на нядзелю раньняй вясной, на зьмярканьні, ходамі і пераходамі, каб не пападацца на вочы людзей, накіраваліся мы за горад, у поле. Прашоўшы вярсты дзьве, шмыгнулі ў лес.

Добры быў лясок, хваёвы — пахучы... Мы, бачыце, пашлі, нібы на паляваньне, і сталі прыслухоўвацца і прыглядацца, ці няма дзе зблізку ад нас льва альбо тыгра: з меншым зьверам спаткацца мы не згаджаліся.

Выплыў месяц. Сьветлыя палосы і цёмныя цені пацягнуліся па зямлі. Пашлі мы далей і далей у глыб лесу, куды ніколі раней не траплялі.

— Каршун! — зьвярнуўся я да Ванькі Доўгага (я і забыўся сказаць, што ў кожнага з нас былі свае індзейскія прозьвішчы: Ванька—Каршун і галоўны правадыр нашага атраду, я—Воран, а брацішка—Грымучая Гадзюка).

— Чаго табе?—важна прабарматаў у вадказ „правадыр“.

— Давайце павячэраем: есьці хочацца. Мы дасталі з дарожнай торбачкі хлеба і кілбасы, і пачалі ў смак уплятаць, а Грымучую Гадзюку паслалі ў разьведку.

Нельга бяз гэтага... Хоць і сядзелі мы ў родным беларускім лесе, недалёка ад роднага гораду Менску, але ў выабражэньні, начытаўшыся розных казак і небясьпечных падарожжаў, унесьліся далёка-далёка. Нам здавалася, што мы сядзім у непраходным амэрыканскім лесе; нас з усіх бакоў акаляюць драпежныя зьвяры і варожныя плямёны, дзеля гэтага варта была неабходнай.

Бяз лішніх слоў Андрэйка папоўз на жываце, варочаючыся то ўправа, то ўлева, то часамі колам абыходзіў нас, то зноў хаваўся з нашых вачэй, а хутка і зусім зьнік.

Прашло каля гадзіны. Мы пасьпелі ўжо добра падмацавацца, а Грымучая Гадзюка ўсё яшчэ не варочалася.

— Ці не папаў ён толькі ў плен?—сказаў я.

— Зьбірай прыпасы, узбройвайся, мы павінны быць гатовы,—закамандаваў Каршун.

Мы зьнялі свае „стрэльбы“ і падрыхтавалі стрэлы.

Раптам пачуўся шорах, бліжэй і бліжэй,—і перад намі, выцягнуўшыся ўсім сваім маленькім ростам, стаяў Андрэйка. Ён быў усхваляваны і цяжка дыхаў ад зморанасьці. Яго правая рука была паднята ўверх, але ён маўчаў, бо, як падлеглы, на меў права гаворыць першы.

— Грымучая Гадзюка, што ты бачыў? — важна запытаўся Каршун.

— Вялікі Каршун! на гадзіну хадзьбы ад нас, лягерам разьмясьцілася другое племя, вялікае, іх многа, вельмі многа.

Па знаку Каршуна, мы ў кола і пачалі радзіцца...

Вырашана было, што ўсе трое зараз-жа паўзком накіроўваюцца на разьведку.

Справа сур'ёзная, адцягваць яе надалей нельга. І мы зараз-жа ляглі на зямлю і папаўзьлі асьцярожна, бяз шуму, па тым кірунку, куды паказаў Грымучая Гадзюка. Вялікі Каршун поўз напярадзе, мы за ім, увесь час наступаючы на яго доўгія ногі. Стаміліся ад няпрывычнага руху, адпачывалі, зноў паўзлі, зноў адпачывалі.

Павеяла сьвежым ветрыкам, пабялеў, як палатно месяц. У лесе начало сьвятлець. Мне было вельмі вусьцішна і страшна.

Напэўна тое-ж самае перажывалі і мае таварышы, але адзін другому не прызнаваўся.

Гэта-ж ня слава.

Воддаль штосьці захісталася, штосьці зачырванела. Паказаліся цені людзей. Даносілася нечая мова.

Ахопленыя і цікавасьцю, і страхам, і жаданьнем вытрымаць сваю ролю да канца, мы дапаўзьлі, хоць і памаленьку хутка мы спыніліся перад нябачнай зьявай.

Невялікая палянка сярод лясной гушчы. Амаль плячом да пляча на ёй сабралася каля 200 чал.—усе майстры і ткачы падгародняга заводу і фабрыкі. Хто сядзеў, хто стаяў. Апрануты яны былі пасьвяточнаму. Супроць іх уваткнутым ў зямлю стаяў і разьвінаўся ад ранешняга ветрыку чырвоны сьцяг, і на ім белымі літарамі выведзены незразумелы і дзіўны тады для нас надпіс **„Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся“**. Пад сьцягам стаяў малады чалавек і гаварыў голасна, з пачуцьцём, размахваючы рукамі і быццам пагражаючы камусьці кулаком. Ці ня нам толькі?—прамількнула ў маёй галаве. Што гэта? Бандыты? Разбойнікі?

Зацікаўленыя, але яшчэ больш напуджаныя, мы сталі асьцярожна адыходзіць назад. Раптам наш правадыр, нечакана-негадана зачапіўся нагою за куст.

На палянцы ўсе заціхлі і прыгледзеліся ў бок кустоў. Малады чалавек перастаў гаварыць: Шмат хто хацеў ужо разыходзіцца.

— Гэй, таварышы, не разыходзьцеся, чаго баяцца! Нашыя патрулі на месцах, яны нам сьвіснулі-б даўно, калі-б была небясьпека,—конныя паліцэйскія альбо жандары. А гэта проста варона крылом шарганула.

— Таварышы, хто там бліжэй, паглядзеце што там шастае. Ці ня шпік які затаіўся?

Некалькі чалавек рушыліся ў наш бок. Тут мы ня вытрымалі, ускочылі на ногі і кінуліся наўцекі. Хутка злавілі нас, схапілі і прыцягнулі на самую сярэдзіну палянкі. Зьдзіўленьне было надзвычайнае... Зауважце, што мы былі ў поўным баявым убраньні амэрыканскіх індзейцаў і размалёваны, як чэрці... З намі пачалі забаўляцца.

— Што за народ? Адкуль вы? Нам дапамог у гэтым пакойнік брацішка.

— Мы гулялі ў дзікіх індзейцаў,—сказаў ён.

Падышоў да нас і расьсьмяяўся той малады чалавек, што трымаў прамову.

— Дзядзечка! пусьцеце нас дамоў, прасіліся мы.

— Не, цяпер вы заарыштаваны. Вось скончыцца мітынг, тады пусьцім, а то яшчэ чаго добрага нагаворыце чаго непатрэбнага пра наш сход.

Хутка ўсе супакоіліся, і сход пашоў сваім парадкам. Мы паціху паскідалі свае галоўнае ўбраньне і наколькі маглі сьцерлі ўзоры на тварах і сталі слухаць.



...Што гэта?.. Бандыты?

Малады чалавек гаварыў так проста і жвава, што ўсё нам было зразумелым ад слова да слова:

— Таварышы, паглядзім уважліва на наша становішча, на абставіны, дзе мы праводзім сваё жыцьцё. Што мы бачым? Мы працуем шмат, мы ўтвараем нязьлічоныя багацьці: золата, тканіны, здабываем з нетраў зямлі жалеза і вугаль, будуем машыны, караблі і палацы, праводзім жалезныя дарогі. Усё багацьце сьвету ўтвораны нашымі рукамі, здабыта нашым потам і крывёю. Якую-ж нагароду атрымоўваем мы за нашую катаржную працу? Па справядлівасьці, мы павінны-б жыць у добрых кватэрах, насіць добрую адзежу і, ужо ва ўсякім выпадку, мець кавалак хлеба. Але ўсім нам добра вядома, што нашых заработкаў чуць хватае на тое, каб толькі існаваць. Нашы гаспадары разумеюць расцэнкі, застаўляюць працаваць больш вызначанага тэрміну, несправядліва штрафуюць—адным словам, з усіх бакоў зьдзекуюцца над намі, а ў выпадках нездавальненьня з нашага боку, гоняць са службы без разважаньняў. Што нам рабіць? Як палепшыць свае становішча? Мы павінны весьці барацьбу за свае вызваленьне, за палепшаньне свайго жыцьця. І ня мы толькі адны... працоўная кляса ўсіх старонак ужо з посьпехам вядзе барацьбу і далёка выперадзіла нас. У дзень 1-га Мая ўвесь міжнародны пролетарыят як-бы пераклікаецца сябар з сябрам—пролетары ўсіх краёў злучайцеся на барацьбу з сваімі гвалтаўнікамі, урадам і буржуазіяй; агульнымі сіламі мы зоваем сабе новае жыцьцё на пачатках соцыялізму... А вы, моладзь юная, нечакана зьвярнуўся прамоўца да нас... (Усхваляваныя, мы ўсталі з сваіх месцаў і слухалі, ня спускаючы з яго вачэй.)

— Вы таксама павінны зразумець, у чым сутнасьць жыцьця. Даволі гуляць у дзікуноў індзейцаў... Вось адзін з вас які ўжо вялікі. Аглянецеся вакол сябе і падумайце, каму павага, багацьце і ўсякае задавальненьне: ці таму хто гарбом сваім працуе з ранку да вечара, ці таму, хто сядзіць на працоўным гарбу? І вы павінны быць разам з рабочымі, з рабочай клясай і весьці барацьбу разам з ім. Абяцайце-ж тут, перад тварам таварышоў рабочых рэволюцыянэраў, што і ваша жыцьцё не прападзе дарэмна, што і вы будзеце весьці барацьбу, як чэсныя барацьбіты, за справу рабочае клясы.

Ванька Доўгі перамяніўся, твар яго пасьвятлеў, вочы блішчэлі і, перабіваючы прамоўцу, ён гукнуў дрыгнуўшым голасам.

— Абяцаю, што буду весьці барацьбу ўсё свае жыцьцё за справу рабочых. Я сам з рабочай сям'і, бацька балагол, а матка бялізну мые па найму.

І ці-ж я ня бачу, як багацеі зьдзекуюцца над намі? Праўда, Паўлюк,—зьвярнуўся ён раптам да мяне,—мы будзем весьці барацьбу?

І ў глыбіні душы ў гэту цудоўную раніцу 1-га Мая мы пакляліся весьці барацьбу ўсё жыцьцё за справу рабочых.

— Няхай жыве 1-ае Мая, сьвята працы і барацьбы! Гу-р-а! Гукнуў прамоўца—у-р-а-а! уторылі дзьвесьце галасоў. Крычалі „ура“ і мы.

— Няхай жыве рэволюцыйнае юнацтва! крычаў другі таварыш.

Ура!

І нас сталі калыхаць. Мы падскаквалі, як мячыкі з рук у рукі. Затым хтосьці стаў кідаць складзеныя ў чатыры разы лісты паперы; усе хапалі навыперадкі. Злавілі лісток і мы.

Раптам нехта засьпяваў „Отречемся от старого мира, отряхнем его прах с наших ног“, і ўсе пачалі памаленьку разыходзіцца.

Але і папала-ж нам ад бацькі, калі раніцою мы з братам зьвярнуліся дамоў. Бацька быў узброены мятлою і мёў двор, бо служыў дворнікам у купца Абіралава. Адсьцябаў ён нас, як належыць.

— Татка, мы заблудзілі ў лесе і чуць нашлі дарогу,—сказаў я ў сваю абарону.

Адрывак з апавяданьня **П. Кудзелі.**



# Чырвоны сьцяг.

Дзьверы ў школу адчыняюцца і зачыняюцца кожную хвіліну. Дзеці ўбягаюць у школу ўсхваляваныя, сьпяшаюцца, шчабечуць, як вераб'і, спрачаюцца, але спрачаюцца падобраму, ня лаючыся, і на перабой прапануюць настаўніцы розныя прыдуманыя імі пляны. А з вуліцы даносіцца такі-ж вясёлы шум. Сонца, урываючыся ў адчыненае насьцеж акно, лажыцца на падлозе яскравымі плямамі. І ў сонечным прамені весела трапечуцца пылінкі. Усюды жыцьцё, усюды радасьць...

Старожка Трахімаўна—у новым паркалёвым каптане і ў новай хустцы. А Сьцяпанка, яе ўнучак, стаіць каля вакна, прытуліўся носам да падваконьніка і думае аб тым, ці дазволяць яму ўліцца разам з іншымі дзецьмі ў гэтае мора чалавечых галоў, што калышацца там, за акном.

...І напэўна не дазволяць. Сьцяпанку ўсяго сем год, і ён кульгавы. Можа толькі тады, калі пойдзе ў школу. Сьцяпанка пытаецца ў бабулькі.

— Бабулька, бабулька, а на наступны год я пайду?

— Куды, унучак?

— А за сьцягам?

Бабулька маўчыць. Выцірае вочы, быццам яе асьляпіла сонца.

— Бабулька, ты плачаш? Зноў успомніла?

І прагнае дзіцячае вуха ў соты раз хоча слухаць адну і тую-ж сумную гісторыю свайго сіроцтва.

— Пра мамку з таткам успомніла? Раскажы!

Бабулька ўсё яшчэ праціраe вочы.

— Раскажы...

— Што расказаць? Як пачну ўспамінаць, духу не хапае...

— Раска-а-жы...

— Вось не адвяжацца!

— Зараз пойдуць з сьцягамі...

— Пасьпеем. Настаўніца вялікі сьцяг направіць і пойдуць. А ты, родненькі, школу сьцерагчы застанешся...

Ён уздыхае.

— Са мною застанешся, са мною.

— Ну, як гэта было?—пачынае Трахімаўна. Быў у мяне сын, гэта твой тата—Аляксей. Кучаравы, вясёлы, добры сьпявака, што салавей. І ўсё сьпяваў такое... пра народ, пра свабоду... А ў мяне душа, бывала, баліць,—прадчуваньне, відаць, гэта было... Вось ён раз і кажа: „Першы май заграніцай і ў ва ўсіх рабочых“. А ў календары яшчэ быў красавік. Памятаю, чуць разьвіднівалася. Між тым, ён з жонкаю, маткаю тваёю, ужо на нагах. Гляджу—за горад зьбіраюцца. А яна таксама, значыцца, была фабрычная. Прышлі гэта раптам да нас таварышы іхнія, з фабрыкі, ну і загудзелі: „Алёша, табе прамову трымаць. Ты папробуй“. Я і кажу: „Міма нашага сутарэньня нешта сышчык ходзіць, у вакно заглядвае, каб чаго дрэннага ня сталася“. Але тут рукою на мяне махнулі. „Пляваць нам на сышчыка“. А Алёшачка, саколік, прамовы любіў казаць з таварышамі пра ўрад, ды пра рабочых, і казаў справядліва, як зараз кажуць, толькі тады за тыя прамовы ўжо сядзеў у турме твой татка... гадоў тры назад... Казала я яму: „Аляксейка, трошку лягчэй“. Дзе там. Ён толькі засьмяяўся і стаў у дарогу зьбірацца...

Бабулька паказала рукою на акно.

— Сонейка сьвяціла таксама, а шуму таго ня было! раней чырвоныя сьцягі хто нёс—украдкамі, на грудзёх: рабочае сьвята ня вельмі ў пашане было ў начальства...

Яна адхліпнула.

— Пашлі яны... А Наста, матка твая, чырвоную хустку ўзяла.

— А хустачку на шыю?—запытаў Сьцяпанка.

— На шыю завязала, на шыю. Ну і пашлі.

— А я?

— А ты, на грэх, прачнуўся і давай плакаць: „Мама“. Табе было ўсяго два гадочкі. А Наста і кажа: „Возьмем сынка з сабою“. Я-ж, дурная, не адгаварыла. Сяджу і чакаю іх. Абед згатавала, ня йдуць. Чакаць ды чакаць. Сонца садзілася ужо, як урэшце вярнулася адна Наста. Але толькі на ёй твару няма. А ў цябе—ступня зьмятая.

Бабулька выцерла сьлязу і казала далей:

— А Аляксейка дзе?—крычу.—Што з ім? Ледзьве дабілася толку... Сабраліся, бачыш, рабочыя за горадам. Сьцягі паднялі, разьвінулі, трымаюць. Запелі свае песьні. Ну, зразумела, выставілі сваіх няглядаць, паліцыю каравуляць, а на дрэва пачалі лезьці прамоўцы. І бацька твой, прамоўца пярвейшы, залез на дрэва. У яго быў голас зычны, чысты, гулкі, як звон... Гаварыў зразумела, аб добрым: аб праўдзе, і як жыцьцё справядлівае наладзіць... Слухаюць яго людзі, натоўп вялікі быў. І шпікі ўсіх прыкмецілі. Дзе-ж тут зьберагчыся!.. Абхінулі саколікаў, казакі наляцелі з нагайкамі; урэзаліся ў самую гушчу.,. Пачалі страляць... А з тых часоў ты і кульгавенькі... Аляксейку з дрэва куляй зьнялі.

Яна замоўкла, ня маючы сілы казаць далей.

Сьцяпанка ціха спытаўся:

— А потым што?

— Мучылася Наста на працы. Сум ёй на фабрыцы ўсё сэрца зьеў; еў, еў і пячонкі выеў... Кашляць стала... Кватэра сырая. Занядужала і памерла... А мы з табою ўдваіх засталіся.

...Казакі наляцелі з нагайкамі...

— Глянь: нашы ў пары строяцца... І сьцяг гатовы... Толькі цяпер, зразумела, нікога за чырвоны сьцяг не заб'юць,—зрабіла заключэньне Трахімаўна.

Сьцёпка глядзеў, і вочкі яго гарэлі. У руках старэйшага школьніка, мускулістага Петрыка Самусёвага чырванеў сьцяг з залатым надпісам „Няхай жыве працоўная школа“ і зьзяў асьляпляючым сьветам. А на грудзёх дзяцей маленькія чырвоныя істужачкі гарэлі, як кветкі, як кроў калісьці забітых рабочых.

Ён скамячыў маленькія кулакі:—бабулька я пайду...

І рашуча стаў у шэрагі школьнікаў. Настаўніца паглядзела на яго курносы твар, ухмыльнулася і нічога не сказала. І калі дзеці вышлі ў шырока раскрытыя дзьверы, ён рушыўся за імі, звонка і ясна выводзячы словы добра вядомага гымну, які сьпяваў яго бацька.

„Гэта бой наш астатні
За працоўны народ“...




**Піонэры гораду разам з Комсамолам і Партыяй у дзень 1-га мая—на змычку з вёскай, на дапамогу сялянскім дзецям і піонэрам.**

**Юныя піонэры—перадавы атрад пролетарскіх дзяцей.**

**Рабочы клюб без піонэр-атрада—сям'я без дзяцей.**

# 1-е Мая ў мінулым годзе.

*(Малюнак).*

Яшка Жалязьняк і Міхась Дыдырка жылі на адным дварэ і былі добрымі сябрамі.

За апошні час яны спатыкаліся рэдка.

Канец вучэбнага году даваў сябе адчуваць. Кожны з іх закапаўся ў свае кнігі, вучэбнікі і розныя паперы-заметкі. Кожны з іх праглядваў і вучыў тое, што ня вывучыў за год, рабіў практычныя працы, маляваў дыяграмы на выстаўку...

Але сёньня напярэдадні 1-га мая яны абодва былі вольнымі ад працы. Усеўшыся на лаўцы, яны грэліся на сонцы і мяркавалі розныя пляны аб тым, як яны будуць праводзіць заўтрашняе сьвята, як будуць сьвяткаваць іхнія атрады.

Разышліся позна. Кожны з іх перад тым, як заснуць, доўга думаў аб заўтрашнім сьвяце.

* * *

Раніцою Яшка ўскочыў з пасьцелі а 7-й гадзіне. Ён зрабіў гімнастыку, памыўся і пачаў рыхтаваць свой першамайскі куток. З аднаго боку ў хаце віселі абразы, а з другога, з першамайскага кутка, глядзеў Карл Маркс і Карл Лібкнэхт і нават сам Ленін.

А 9-й гадзіне, Яшка апрануты ў новую піонэрскую форму, быў ужо ў клюбе

У клюбе вывесілі насьценную газэту, першамайскія плякаты і шмат іншага. Хутка атрад накіраваўся на дэманстрацыю.

На вуліцы было весела. З бальконаў на піонэраў глядзелі чырвоныя сьцягі, сонца ласкава грэла голыя пяткі, калені і шыі. Насустрэч піонэрам ішлі рабочыя організацыі, комсамольскія ячэйкі, школы, піонэр-атрады і г. д.

Піонэры сьпявалі.

І ўся вуліца падтрымлівала:

**„Сьвяткуйце 1-е мая“.**

Каля гадзіны пахадзіўшы па вуліцах піонэры зноў пашлі ў клюб, дзе павінен быў адбыцца сход бацькоў.

Бацькі ўжо зьбіраліся. Паміж іх была і Яшкіна маці. Яшка стаяў з ёй каля насьценнае газэты і чытаў ёй свой допіс аб клюбнай працы.

На сходзе казалі аб 1-м маі і аб працы ў сям'і, а пасьля гэтага апошнюю частку дня піонэры правялі ў садзе сумесна з бацькамі. Гулялі, сьпявалі, бегалі і г. д.

На другі дзень піонэры а 8-й гадзіне ўжо былі ў лесе на маёўцы. Там яны правялі досыць жывую гутарку аб 1-м маі, а пасьля гэтага старшыня саюзу—Алёша падзяліўся сваймі ўспамінамі аб сьвяткаваньні 1-га мая да Кастрычнікавай рэволюцыі.

Пасьля трохі адпачыўшы, наладзілі гульню „1-е мая за межамі“.

На горцы грымеў оркэстр, дарослыя адпачывалі, а дзеці бегалі, купаліся, гулялі і вадзілі ўсюды за сабой старшыню саюзу—ганаровага піонэра.

А пад вечар пасьля фізкультурнага выступленьня піонэраў, на машыне прыехаў кіно-опэратар і зрабіў здымак маёўкі, у тым ліку і піонэраў, і нават самога Яшку.

Яшка ад сьвяткаваньня 1-га мая астаўся вельмі здаволеным.

А як Міхась Дыдырка? Як ён правёў сьвяткаваньне?

* * *

У дзень 1-га мая Міхась таксама, як і Яшка, ускочыў з пасьцелі а 7-й гадзіне, зрабіў гімнастыку і стаў прывадзіць у належачы парадак свой першамайскі куток.

З аднаго кутка хаты глядзелі на яго абразы, з другога: Карл Маркс, Карла Лібкнэхт і нават сам Ленін.

А 9-й гадзіне Міхась ужо быў у клюбе. У клюбе нікога ня было, на сьценах целяпаліся плякаты нават яшчэ ад гадавіны Чырвонай арміі, а насьценная газэта вісела пад нумарам 1 ад 1-й гадавіны са дня сьмерці Ільліча.

Піонэры сабраліся ў клюб толькі ў палове адзінаццатай... На дэмонстрацыю вышлі каля дванаццаці. Накіраваліся на аэродром, які знаходзіўся ад гораду каля 3-4 вёрст. (Туды накіраваліся ўсе дарослыя організацыі.)

Спачатку ўсё было добра. Атрадны барабаншчык Макс Фінкельштэйн калаціў, як толькі мог у барабан, піонэры сьпявалі „армію чырвоную“, і павадыр Саліенка моцна выкрыкваў: „раз, два... левай... левай“.

Але калі прашлі каля дзьвюх вёрст, малодшыя пачалі адставаць, піонэры прасілі піць, акцябронак Жэнька Канайлін нават заплакаў.

І ўжо не калаціў так моцна Макс у свой барабан, і не сьпявалі піонэры песьні, а толькі цягнулі: „Дамоў... піць... дамоў хочам“.

І толькі павадыр яшчэ моцна крычаў „левай... левай“.

Піонэры нават і самі ня ведалі, як яны дашлі да аэродрому і як прышлі дамоў. Толькі я чуў, як матка Міхася гаварыла суседцы:

„А мой Міхась сёньня з дэмонстрацыі прышоў а 7-й гадзіне і зараз лёг спаць“.

На другі дзень ляпей ня было. Раніцай у клюбе быў таксама сход бацькоў. І як не хацеў Саліенка скончыць яго хутчэй, скончыўся ён толькі к 3-й гадзіне. Пасядзелі гадзіну і пашлі дамоў.

Прыяжджаў і сюды кіно-опэратар, але нічога ня вышла. Калі ён пачаў круціць свой апарат, ён крыкнуў на піонэраў:

— Чаго-ж вы ідзеце, як няжывыя?

І, пакруціўшы яшчэ, ён сказаў свайму памоцніку:

— Нічога ня выйдзе з імі. Ідуць, як сонныя.

Міхась сьвятам астаўся вельмі нездаволены.

* * *

Гэта была ў 1925 годзе.

Здаецца, паколькі мне вядома, Міхась ужо ня зьбіраецца сёлета праводзіць так сьвята.

Але аб гэтым мы будзем чытаць у № 5 „Беларускага піонэра“ калі дзеткоры прышлюць туды свае допісы аб сьвяце 1-га мая.

**М. Таўбэ.**




**Казка Якуба Коласа.**

I

Ну, пачнём мы казку так.
Жыў да быў у рэчцы рак
З доўгімі вусішчамі,
З чорнымі вачышчамі,
Вострымі, лупатымі,
З лапамі разгатымі,
Шырачэзны ў шыі,
Клешні—во якія!

А як вусам павядзе,
Страшна зробіцца ў вадзе;
Рыбкі хвосьцікам мяльнуць
Ды галоўкаю кіўнуць
І баржджэй наўцекача
Ад рачышчы-вусача.
А ён шыйшчай — трэп! трэп!
Жабка ў бераг — і ні шэп!
Страшны рак быў, грозны рак:
Як ушчэміць—будзе знак.
І баяліся яго,
Як няведама каго!

Пад кареньнямі ракіты
Жыў наш рак, вусач сярдзіты.
І ёсьць загадка такая:
Ні сьмяецца, ні гукае,
Жыве ў букце пад ракітай,
На ім сьвіта,
Да ня сшыта,
Хоць кравец, да ня Мікіта.

II

Ну-ж і слаўна каля рэчкі!
І каго на ёй няма!
Сітнякі стаяць, бы сьвечкі,
Тут чырвоныя парэчкі
І малін тых—проста цьма.
Тут і лозы, і ракіты,
І чарот, і асака,—
Ну, як тыя аксаміты
Крыюць бераг самавіты,
Вабяць вока здаляка.
А тых пташак і ня зьлічыш:
Качкі, кнігаўкі, драчы
І сам, бусел-паплаўнічы
Вас у госьці тут закліча,
Жабу ў дзюбе нясучы.
Тут жыве і сам камар,
Спраў балотных камісар,
Доўганосы, доўганогі,
Голас тонкі, а сам строгі.
У траве між чаратоў
Колькі гэтых матылёў,
Бабак сініх і зялёных,
Іх сукенаўкі ў хвальбонах...
Пабажыцца тут гатоў:
Іх убор—іду ў заклад—
Закасуе ўсіх дзяўчат!

Весела на рэчцы
І траве, і кветцы,
І крылатым пташкам,
Мошкам і мурашкам,
І крыклівым дзеткам,
Асабліва леткам.
Ў рачулцы купаюцца,
Ў пясочку качаюцца.

III

Ой, бяда, бяда!
Мутненька вада—
Пахмурнела рэчка.
Ой, пакрыўдзіўся рак,
Смутны стаў, небарак,
Ціхі, як авечка.
Не варушыць вусам,
Лёг на дно ён брусам
І ляжыць дзён тры,
Растапырыў клешні
І ня есьць яешні —
Жабінай ікры.
Ня вылазіць з норкі:
„Лёс мой, кажа, горкі,
Цяжка быць ракам!“
Вось падплыў акунчык:

— Вылезь, рак-гарунчык,
Не глядзі ваўком,
Ня смуткуй так дужа,
Разьвяселься, дружа:
Гэта-ж—ня гульня!
Зойдзешся ад голаду,
Прападзеш ты змоладу,
На парозе дня!
А як сьвеціць сонейка,
Грэе рэчцы лонейка,
Песьціць сітнякі,
Грэе так гарачанька...
Разьвяселься, рачанька,
І нас ты ня кінь!
Ты сядзіш пахмураны,
Злосны і абураны
І ня бачыш дня.—
Апусьціў рак вочы,
Нават і ня хоча
Слухаць акуня.
Падплывае плотка.
— Рача, маё злотка!
Адпусьціся, мілы!
Чым цябе ўлагодзіць?
Што табе абходзіць,
Сокал лёгкакрылы?
І нам, рыбкам, трудна,
Жыць часамі нудна,
Проста— ох-ох-ох!
Гоняць нас усюды,
Ловяць нас на вуды,
Надзяць на гарох.
Ловяць невадамі,
Душаць венцярамі,
Брэднем, тапчаком.
Ой, жыцьцё—ня сьвята,
Горанька багата—
Лепш быць чарвяком!
Адпусьціся-ж, рача:
Нават рэчка плача
Над сынком сваім.
Рак маўчыць зацята,
Вусам не закратаў...
Што рабіці з ім?
Разьвяселіць чым?

IV

Выдаў сом такі наказ —
Склікаць сход у той-жа час
І на сходзе абсудзіць,
Як на справу хто глядзіць,
Чым усьцешыць бедака,
Засмучонага рака.
А наказ ён скончыў так:
— Будзь ты старастам, шчупак!
Каб хутчэй ва ўсе канцы
Рассылаліся ганцы!
Трэба раду як даваць
І рака адратаваць! —
Тут шчупак мяльнуў хвастом,
Плотак зрушыў пад кустом,
А маруднага ліна
Выгнаў з саменькага дна
І ўсім холаду задаў,
А нарэшце загадаў:
Эй, вы, верхаводкі, плоткі!
Паслужэце справе, цёткі!
Заклікайце рыбу ўсю
І скажэце карасю:
Няхай вылезе з гразі,
Хай плывуць сюды язі,
Яльцы, мянтузы, кялбы
І акунь, той гад рабы,
Ды сказаць яму пры тым
Словам старасты маім,



...Сом адкрыў сабраньне...

Каб, спаткаўшыся са мной,
За мяне стаў галавой! —
Плоткі старасьце — паклон
І ўсе рынулі ў разгон.

V

У глыбознай букце
Між карчаг дубовых
Адбылася рыб'я
Важная намова.
Сом адкрыў сабраньне,
Выступіў з дакладам,
А язь сакратарыў,
Сеўшы з сомам радам.
„Таварышы-сябры,
Ляшчы і асятры,
Ліны і мянтузы,
Паслы ад драбязы
І іншыя асобы!

У нашай рэчцы — гора:
Смуткуе рак з-за ўчора
З прычын такой жалобы —
Прышоў да прakананьня,
Што лепш яму скананьне,
Чым жыць на гэтым сьвеце.
І кажа ён, дзівак,
Што найняшчасьнейшы на сьвеце — рак
І згінуць хоча ў цьвеце,
І толькі з тэй пары
Ён вылезе з нары,
І смутак свой пакіне,
Калі хто давядзе,
Што ёсьць яшчэ ў вадзе,
Ці проста абы дзе,
Такі, чый лёс яшчэ больш цяжкі;
Іначай рак наш згіне.
І гэты аргумэнт
Саб'е яго нашчэнт,
Бо ён ёсьць самы важкі.
І вось цяпер, сябры,
Вы будзьце так дабры,
Найдзеце кандыдата.
І думаецца мне,
Што ў нашай старане
Пакутнікаў такіх,
Сапраўдных і цяжкіх,
Налічыцца багата".
Зашумелі рыбы:
— Назавём бяз хібы —
Імі — гаць гаці!
Столькі тут маркотных
Ды якіх гаротных —
Чэцьвера з пяці!
— Таварышы, увага! —
Азваўся сакратар: —
Тут ёсьць такая пляга,
Што стукне вас, як шляга,
І кіне вас у жар:
Калі хто сапраўды
Сябе няшчасным лічыць болей,
То ён павінен добрай воляй
Аддацца раку для яды,
Інакш ён ня дасьць і веры. —
Сказаў ды зноў сеў за паперы.
Вось сказаў дык сказануў, —
Як сякерай сеkануў!
Прыкусілі языкі
Акунькі, мянькі, лінькі,
А маруда той лінок
Зараз — віль! — ды пад лісток.
І добрых мінут пяць
„Пакутнікі" маўчаць.
— На сьвеце жыць ня так ужо і горка, —
Гаворыць краснапёрка: —
Плывеш сабе сюды-туды
Бяз гора, без бяды,
Пад кусьцік зазірнеш,
Ну, часам і ўздыхнеш,
Ды больш ужо з прывычкі,
Чым з клопату якога.
Ці так кажу, сястрычкі?
— Да так! Жывецца нам — нічога:
Хватае ўсім вадзічкі,
І плаваем на волі,
І жыру ёсьць даволі,
А тое нараканьне,
І гэтая жалоба —
Пустое выдумляньне
Ці панская хвароба.
— Гум! — прамовіў дзядзька сом:
Што-ж мы раку паднясём?
Няхай, значыць, гіне рак?
Ці ў няшчасных стаўся брак?
Ці-ж нам кідаць справу так?
— Дайце мне слаўцо сказаць! —
Ялец стаў хвастом віляць: —
Я скажу вам праўду ўсю:
Жыць найгорай карасю!
І ўсе грымнулі: „Так! так!
Ён — няшчасьнейшы бядак:
Жыве ў такім балоце,
У такой брудоце,
Ён такі гаротны,
Ён непаваротны, —
Ні аднэй мінуты
Без тае пакуты!
З боку глянуць — жаль бярэ!
Як ён з гора не памрэ?!
— А дзе карась?
— Зашыўся ў гразь,
І сход яму ня мілы,
Сядзіць там, апастылы. —
І кажа сом: „Заклікаць гаруна!
Шчупак, распарадзіся!
— Я ўраз, таварыш сом, спалю, як з пяруна,
А ты, карась, дзяржыся! —

(Працяг будзе).

Якуб Колас

# Зьвер на волі.

**Дзіцячая сцэнка.**

Асобы:

ЗОСЯ—5 год.
ІГНАЛІК—8 год—акцябронак.
ПЯТРУСЬ—піонэр.

Зьява І.

(На сцэне Зося і Ігналік).

Ігналік. Ня лезь, адчапіся... Я цяпер ведаеш хто?—Акцябронак—зьмена піонэрам, а ты хто такая?.. неорганізованая... Ня буду з табой больш гуляць... Ня хочу з табой і знацца!

Зося. Але ты ўсё-ж такі мне раскажы, што ты ўчора ў цырку бачыў?..

Ігналік. Вельмі патрэбна.. Ды ты заплачаш. Вунь учора мыш убачыла, дый то на ўсю хату загаласіла.

Зося. А цяпер я ня буду плакаць.

Ігналік. А вось будзеш...

Зося. Не, ня буду...

Ігналік. Ну, добра... Вось слухай, учора ў цырку з клеткі вялікая мядзьведзіца выскачыла.

Зося. Ой... страшна!

Ігналік. Ага!.. Вось і ой... Выскачыла і ўцякла. І цяпер яна па ўсяму Менску бегае.

Зося (трасецца). І яе не злавілі?..

Ігналік. Дык вось, кажу, што не... Бачыць нават,—каля нашае брамы бадзяецца... Ты лепш і ня выходзь з хаты.

Зося. І не пайду. Ігналька... Ды ты ня маніш?..

Ігналік. Вось яшчэ што?.. Ды вунь Пятрусь ідзе. Ён—піонэр, маніць ня будзе. Спытай яго.

(Пятрусь высоўваецца ў акно).

Голас за сцэнай. Ну, чаго табе?

Ігналік. Ці відаць вялікая мядзьведзіца?

Голас за сцэнай. Ну, відаць, вунь яна!..

Ігналік (да Зосі). Чула? Хутчэй хавайся.

Зося: Але куды-ж, Ігналька, братка.. (Бегае па сцэне).

Ігналік. Лезь вунь у гэтую шафу, а я цябе замкну. Мядзьведзіца цябе й ня знойдзе...

Зося: Мамка! Да мамкі хачу!.. (Хныча).

Ігналік. Хутчэй, хутчэй, кажу, лезь у шафу, а то мядзьведзіца зьесьць цябе... А я пайду зірну, дзе яна... (Замыкае шафу, бегае). Вось пацеха...

Зьява II

(Уваходзіць піонэр Пятрусь).

Пятрусь. Ігналька!.. Няма нікога... Ды куды-ж гэта яны ўсе падзеліся?.. У хаце пуста... Зося!..

Зося (з шафы). Я тут, Пятруська... Ды баюся выйсьці...

Пятрусь (адчыняючы шафу). А ты чаго сюды залезла? і хто гэта цябе тут замкнуў?

Зося. Ігналік мяне замкнуў... Ад вялікай мядзьведзіцы ратаваў... Кажа, зьесьць яна мяне.

Пятрусь. Ай, няздара гэтакі. Вунь якія ён штукі вытварае... Ну, пачакай... (Дастае з кішэні два абаранкі). На вось гэта нам сёньня, у дзень сьвята 1-га Мая, у ватрадзе раздавалі... Еж усё... Я для вас абодвух прынёс, а цяпер яму ня будзе долі... Ну, чаго ты яшчэ азіраешся?.. Гэта-ж так зоркі завуцца—„Вялікай Мядзьведзіцай“. (Падыходзіць да дзьвярэй, крычыць). Ігналік!.. А Ігналік!.. Хадзі, брат, сюды!..

Зьява III.

(Уваходзіць Ігналік).

Ігналік. Чаго табе?

Пятрусь. А навошта ты Зоську ў шафу з мкнуў?

Ігналік (падміргваючы). Я баяўся, каб яе вялікая мядзьведзіца, часам, ня зьела. А Зоська ўжо раўці пачала...

Пятрусь (у тон яму). Вунь як. Ай, ты, разумніца!.. На мяне й то вялікая мядзьведзіца тут на панадворку напала...

Ігналік (з усьмешкай). Чуеш, Зоська? Ага!..

Пятрусь. Я вам два абаранкі нёс, і вялікая мядзьведзіца схапіла твой абаранак дый зьела, а Зоськін пакінула... Яна разумная, відаць, гэта вялікая мядзьведзіца, што й казаць...

Зося: Ха, ха, ха... (Сьмяецца). Акцябраты абаранкаў не ядуць... Ну, ужо я яму, Пятрусь, абаранак аддам.

Ігналік (надзьмуўшыся). Ня трэба мне яго.

Пятрусь. Бяры ўжо... А яшчэ акцябронак,—зьмена піонэрам... Эй, ты!

З расійскага пераклала і апрацавала **Л. Шафаловіч.**

# Наша жыцьцё

### „Піонэрскія думкі“,

*(Менск, атрад пры Наркамасьветы).*

Пад такой назвай выходзіць у нас насьценная газэта. Яна існуе ўжо 2-гі год. Спачатку газэта была няцікавая, бо ў ёй прымалі ўдзел толькі 2-3 піонэры. За апошні час рэдколегіі ўдалося прыцягнуць большы лік дапісчыкаў. Асобным піонэрам даецца заданьне напісаць допіс на тую ці іншую тэму, што і выконваецца. У выніку—цікавасьць да газэты павялічваецца, хутка пры газэце распачне працу гурток дзеткораў.



**І. Зэльцар.**

### Наш гурток.

*(Менск).*

Наш гурток дзіцячых дапісчыкаў організаваўся вясной мінулага году. За працу ўзяліся ахвотна, і хутка наш гурток распачаў карысную працу.

На занятках гуртка наш кіраўнік М. Таўбэ праводзіў гутаркі аб тым, што трэба пісаць у газэту і як пісаць. Апрача гэтага, мы разьбіралі свае артыкулы, чыталі піонэрскія часопісі і газэты. Таксама выдавалі і сваю насьценную газэту.

У пачатку школьных заняткаў гурток зачынілі. Цяпер-жа ізноў організавалі. Гурток падзелены на тры групы: літаратурную, мастацкую і корэспондэнцкую. Праца ідзе добра. Вышаў першы нумар часопісі „Дзеткор“. У хуткім часе мы пачнем крытычны разгляд „Беларускага піонэра“.

**Г. Кудратаў.**

### Раніца—вясна.

Ужо ветры
Сьціхлі.
Завіруха ў пуні
Адпачыць лягла.

Ночка цёмная
За гарою зьнікла—
Іржаной саломкай
Зоранька ўзышла.

Апранулась раніца,
Уваброла
Стрэхі
Ячмянём.

Белагрудая
Бярозка-п‘яніца
Напаіла суччa
Ды цьвіце ізноў.

Ужо ветры сьціхлі,
Завіруха
У пуні адпачыць лягла,
Мая думка аб вясьне
ня зьнікла,
Сэрца просіць—
Шчырасьці,
Цяпла!..

**А. Мартынаў.**

### Сувязь між атрадамі.

*(М-ка Чырвоная Слабада Чырвона-Слабодзкага раёну.31-га атраду ім. тав. Ігнатоўскага).*

У нас ёсьць тры атрады: два беларускіх і адзін яўрэйскі. Атрады паміж сабой трымаюць сувязь, праводзяць сумесныя сходы і гутаркі. А таксама ёсьць форпост, які вядзе працу і сувязь паміж вучнямі і піонэрамі. Дысцыпліна ў атрадах палепшана, хаця і прышлося звольніць некаторых піонэраў. Толькі кепска, што ня маем свайго клюбу.

Дзеткор **Корзун.**

### Бяз клюбу.

*(Атрад ім. Адамовіча, мястэчка Капыль).*

У 14-м атрадзе няма клюбу ўжо хутка год. І піонэрам трэба кожны раз шукаць памяшканьня, каб правесьці заняткі. Некаторыя піонэры праводзілі дома заняткі ў павадыра зьвяна. Але цяпер ужо адбудавалі комсамольскі клюб, дзе мы і праводзім заняткі.

Але комсамольскі клюб не замыкаўся і вось аднаго разу здарылася пакража: з шафы нехта пакраў 10 часопісяй.

Хоць троха і кепска без свайго клюбу, але нічога ня зробіш.

**Я. Чорны.**

### Вось дык справа.

*(Жал.-дар. школа імя Ільліча).*

На калідоры ў нашай школе стаіць з вадою бак, каля якога заўсёды наліта на падлозе лужа вады. Разьліваюць ваду ня толькі дзеці, але й піонэры.

На пярылах пры выхадзе з школы зьверху аж да самага нізу наплёвана. Калі паглядзець на сьцены школы, дык і тут ня ўсё ў парадку...

А школьком над нечым усё думае і паглядзець на ўсё гэта ня мае часу.

**Вучань.**



## Трэба пабудзіць.

(*Капыль, Случчына*).

Справа з насьценнай газэтай у нашай школе кепская. І будынак ёсьць добры, і вучняў усяго 420 чалавек, а газэта выходзіць толькі раз у 2-3 месяцы. Я ня ведаю, чаму гэткія адносіны да насьценнай газэты,—хутчэй усяго, што ў вучняў няма аніякай зацікаўленасьці, бо ёсьць таксама корэспондэнцкі гурток, але і ён сьпіць моцным і салодкім сном.

Трэба, мусіць, разбудзіць, раскатурхаць гурток, бо сам ён ніколі не прачнецца. **Вучань.**



## Няма шэфа.

(*М-ка Леніна Слуцкае акр.*).

У нашым м-ку ўжо 8 месяцаў, як організаваўся атрад юных піонэраў імя „Калініна“, а ня гледзячы на гэта да гэтага часу ў нас няма шэфа.

Чакаем і маем надзею, што хто-небудзь у хуткім часе возьме над намі шэфства.

**Я. Любецкі.**

## Люблю.

Люблю я летнюю пагоду,
Як сонца гляне над зямлёй,
Асьвеціць ўсё—лясы, даліны
І селяніна над сахой!..

Люблю я выйсьці на прасторы,
Як птушкі радасна пяюць,
Яны страчаюць дзень шчасьлівы
Яны сьмяюцца і жывуць...

Люблю я ночкі залатыя,
Як ў клюбе песьні й сьмех гучаць:
Усё жыцьцё люблю, люблю я,
Люблю сьмяяцца і сьпяваць!

Піонэр **Я. Кулікаў**



## Форпост, прачніся.

У нас, у Чырвонай-Слабадзе, калі атрад разьбілі на два атрады, то пры школе організаваўся форпост. Гэты форпост толькі організаваўся, а працы ніякае не вядзе.

Раім форпосту ня спаць у шапку, а ўзяцца за працу!

Піонэрка **А. Утлік.**

## Саюз дапамог.

(*Колектыўны твор вучняў 3 кл. Д.-П. школы пры Б.Д.У.*).

Кепска жылося рабочаму шкляной гуты Алесю. Атрымоўваў ён малую пэнсію, а сям'я была вялікая. Як на тое ліха Алеся паставілі працаваць за кепскі варстак. Надзьмуў ён аднойчы шкляны пузырок, уставіў у форму, каб зрабіць бутэльку ды неяк наўскасяк паціснуў нагой. Нешта трэснула пад нагой—і Алесь зваліўся з памосту разам з зламаным варстаком...

Застагнаў бядак, але ня так пабіўся ён, як спалохаўся, што варстат зламаў. Прабегла думка ў галаве, што дырэктар штраф наложыць, а ў яго і так грошы не хапае на пражыцьцё... Так і вышла. Дазнаўся аб здарэньні дырэктар, жорстка накінуўся на Алеся і прыказаў адкупіць варстат.

Вельмі сумны прышоў Алесь да хаты і расказаў жонцы Надзі аб сваёй бядзе.

— Ня сумуй, не гаруй, Алеська,—успакайвала Надзя, — як-небудзь гора паправім. Напішы заяву ў саюз, ён пэўна дапаможа, бо ты-ж невінаваты.

Алесь паслухаў парады Надзі і пашоў у саюз „хімікаў“, да якога сам належаў. РКК саюзу разабрала справу Алеся і прызнала, што ён невінаваты.

Назаўтра зранку ў добрым настроі прышоў Алесь на гуту і прыступіў да сваёй прывычнай працы. Зараз-жа падышоў дырэктар. Алесь з вясёлай усьмешкай падаў яму паперку ад РКК.

Усе рабочыя былі вельмі рады, што саюз абараніў Алеся, бо з кожным з іх можа здарыцца такі самы выпадак.






## Мы гатовы.

Зашумелі ручайкі
Па чорнаму полю
І да працы веснавой
Мы ужо гатовы...

Бацька з конікам арэ
Сваю ніву—пахаць,
А з ім хлопчык-піонэр
Бацьку памагае...

. . . . . . . . . . . . . .

Піонэры, мы заўсёды
Будзем шчыра працаваць.
Як у полі, так і ў хаце
Матцы й бацьку памагаць.

**Ул. Яцкевіч.**

## Дрэнны прыклад.

*(Менск, 54 атрад).*

У нас у атрадзе ёсьць піонэры, якія перададзены ў комсамол, і так як яны комсамольцы, то мусіць і забыліся пра піонэрскія законы і звычаі. Некаторыя з іх падаюць дрэнныя прыклады; асабліва ў гэтай справе адлічыўся комсамолец К. Г.

**Піонэр.**



## Форпост, прачніся!

*(Зембінскі 89 атрад).*

Калі толькі пачалі вучыцца, у нашай Зембінскай сямігодцы з'арганізаваўся форпост, які толькі лічыцца на паперы, бо за ўвесь навуковы год зрабіў толькі адзін сход.

Форпост не глядзіць, як вучацца і вядуць сябе піонэры.

Форпост, прачніся.

**С. Федаровіч.**

## У вясну.

Ужо сонца высока ўсходзіць,
Рэчка ўсю шыр заліла.
Птушкі высока ў небе
Ў нашу старонку ляцяць.

Ужо дзеткі з хатак старэнькіх
На прызьбе пясок рассыпаюць,
Іх птушкі вясёлымі сьпевамі
З чырвонай вясною вітаюць.

**М Горан.**

# Экскурсія ў каўбасную.

Раніцай, як заўсёды, мы прышлі ў школу. Папрацавалі з гадзіну, а пасьля пачалі прасіць настаўніка схадзіць з намі на экскурсію ў каўбасную, бо якраз мы вялі гутарку пра харчовую прамысловасьць у нашым горадзе.

— Добра,—кажа настаўнік:—калі зможаце самі напісаць паперку на атрыманьне дазволу і атрымаеце па ёй дазвол на экскурсію, дык сходзім.

На некаторы момант кляса зусім заціхла, толькі чуваць было, як шумелі насамі нашы піонэры, складаючы паперку. Калі-ні-калі цішыня парушалася пытаньнем таго ці іншага піонэра, як напісаць без памылкі тое ці іншае слова.

Праз паўгадзіны паперка была гатова і мы ўсёй клясай пачалі слухаць, як хто напісаў. Лепш і гладзей за ўсіх напісала Жэня Сучок.

Вось, як у яе вышла:

**Загадчыку каўбаснай, што на Ленінскай вуліцы.**

Школа просіць дазволіць вучням III клясы зрабіць экскурсію ў даручаную Вам майстэрню, каб пазнаёміцца з яе пабудовай і працай. А калі Вы думаеце, што мы Вам перашкодзім у працы, дык не: перашкаджаць мы Вам ня будзем і нас прыдзе няшмога—чалавек 15-20. Не адкажэце, калі ласка, у нашай просьбе.

Загадчык школы (подпіс).

За дзелавода **Жэня Сучок.**

Настаўнік расьпісаўся за загадчыка, паставіў уверсе, з левага боку, школьную пячатку, і Жэня за тое, што складней за ўсіх злажыла паперку, пабегла за дазволам.

Праз якую гадзіну яна ўжо прыбегла назад.

— Заўтра, ў гадзін 12 можна йсьці,—сказала Жэня, пачырванеўшая, як макаў цьвет, ад холаду.

Прышло й заўтра. Мы ўсе аж гарым, каб хутчэй ісьці на экскурсію. А тут, як на злосьць надышла такая завіруха, што й сьвету ня відаць.

— Ну, куды-ж вы пойдзеце ў такую мяцеліцу? Гэта-ж добры гаспадар і сабакі ня выганіць з хаты ў такую пагоду, а я буду дзяцей цягаць па дварэ,—гаварыў настаўнік.

— Мы будзем дыхаць праз нос, добра зашпілімся, уверцімся і будзем трымаць сябе організавана. Антось Іванавіч, пойдзем!— прыставалі нашы піонэры да настаўніка.

А наш Антось Іванавіч—добры, паслушны чалавек. Пастаяў ён, пачухаў патыліцу, пагладзіў сваю рэшту валасоў на лысай галаве, усьміхнуўся нечага дый кажа: „Ну, што-ж з вамі зробіш, пойдзем! толькі-ж глядзеце!“ Пры гэтым твар яго прыняў важную міну і палец паднятай настаўніцкай рукі паківаў на клясу. Здаецца, нібы й настаўніцкі палец казаў: „Толькі-ж глядзеце!“

Мы ўжо ведаем, што гэта азначае— „толькі-ж глядзеце“ у нашага Антося Іванавіча.

Гэта значыць; 1) ісьці ціха, 2) ісьці парамі, 3) ня штурхаць праходзячых па вуліцы пад бакі, 4) дыхаць праз нос, 5) укруціць горла, 6) зашпіліцца на ўсе гузікі і 7) трымаць сябе на экскурсіі, як належыць піонэрам: не перашкаджаць рабочым у працы, ня лезьці блізка да станкоў і г. д.—вось што азначае ў Антося Іванавіча „толькі-ж глядзеце!“

— А вы-ж ведаеце, аб чым пытацца ў майстэрні, чым там цікавіцца?

— Ведаем, ведаем!—крыкнулі ў адзін голас піонэры.

— Пашлі!—скамандваў настаўнік.

На дварэ сьвішча вецер. Завіруха круціць сьнег, сьнегавым пылам засыпае вочы. Але на дварэ ня холадна. Нам так весела, так хочацца пакачацца ў сьнягу, але нічога ня зробіш, трываем—далі піонэрскае слова: быць організаванымі.

Каб і слова стрымаць і не парушыць організаванасьці, мы пусьціліся на хітрасьць: мы парашылі йсьці нацянькі—праз гарадзкі сад (сквэр), увесь завеяны сьнегам. Волька пашла наперад. Антось Іванавіч і не агледзіўся, як мы ўсе лазілі і качаліся па сьнезе. Вядома, што ён далей ісьці нам не дазволіў, але нам больш нічога й ня трэба: мы пакачаліся ў сьнезе й слова стрымалі; дальш мы ўжо йшлі спакойна.

II.

Прыходзім у каўбасную. Прыветна спатыкае нас загадчык майстэрні. Стаіць ён каля вушака дзьвярэй, прысадзісты й ёмкі. На яго круглым твары вясёлкай разьлілася добрая ўсьмешка, калі ён пабачыў нас.

Рабочых у майстэрні было чалавек 8. Усе яны былі адзін-у-вадзін—здаровыя, круглыя й гладкія.

— Вось, мусіць, яны добра ведаюць „ахову здароўя“, шэпча на вуха Антосю Іванавічу піонэрка Зося. Але ўсьмешка раптоўна зьбегла з яе твару, калі мы ўсе пабачылі, як 2-х рабочых, моцна грукаючы ботамі, несьлі скрынку сечанага мяса—пудоў 20 вагою!



Дзяўчынка—нянька.

— Гэта-ж падарвацца можна,—шапталіся піонэры:—як гэта іх косьці трываюць, як гэта іх жылы не парвуцца? Здаецца, каб дакрануўся да твару гэтых рабочых, дык з яго пырснула-б кроў. Пальцы, як моцныя абцугі, сьціскалі ручкі цяжэрнай скрынкі. На закасаных руках, пад скурай, відаць былі тоўстыя верацёны мускулаў. Рабочыя дружна выкінулі мяса на палок-нары і ўздыхнулі ўсімі сваімі дужымі грудзямі.

Затое ўся астатняя работа выконвалася машынамі. У куточку пыхкае паравічок. Рабочы казаў, што, замест гэтай машыны, трэба запрэгчы штук 8-10 добрых коняй. Гэты па-

равічок круціць 4 станкі. На адным, дык у 15 мінут можна зрэзаць пудоў 15 мяса; на другім гэта мяса зьмешваецца з сечаным салам, на трэцім надзяваюць каўбасы.

— Колькі вы, дзядзька, вырабляеце каўбас за суткі?

— А як калі; калі пудоў 40, калі болей, калі меней!—адказаў майстра.

— А браткі-ж вы мае, хто-ж гэта іх зьядае?—зьдзівіліся мы.

Не пасьпелі мы як сьлед разгледзіць устройства станкоў, як клічуць нас рабочыя да стала. На ім накладзена шмат маленькіх, тоненькіх каўбасак; гэта рабочыя сабраліся частаваць нас сасіскамі. Мы гэтага не чакалі й засароміліся,—некаторыя дык паўцякалі.

Разам з намі прышла на экскурсію нейкая настаўніца. Яна была маленькая й шчупленькая. Закручаная ў хустку, па выгляду яна была падобна да піонэркі-вучаніцы. Яе й палічыў рабочы, частуючы нас сасіскамі, за піонэрку.

— Бяры, дзевачка, бяры—дурная, не саромейся, нас гэтым не ўкалечыш!—совае рабочы сасіскі і гэтай „піонэрцы“.

Жэня падбегла да дзядзькі, кранула яго за локаць дый кажа: Дзядзька! гэта-ж не вучаніца, гэта нейкая настаўніца прышла з намі пацікавіцца працай у каўбаснай.

Рабочы засароміўся й ня ведаў, што рабіць з сасіскамі.

— А хто вас тут разьбярэ, хто з вас вучаніца, а хто настаўніца!—і упіхнуў сасіскі Алесю ў кішэню.

У сушыльні нас таксама частавалі каўбасой—сухой і смачнай.

А загадчык каўбаснай стаіць сабе ў баку і ўсьмяхаецца ў свае кусьцістыя густыя вусы.

Ня гледзячы на тое, што ў каўбаснай і цемнавата й цеснавата й халаднавата, нам не хацелася адтуль выходзіць.

Хацелася так шчыра падзякваць добрых дзядзькоў, так шмат сказаць ім ласкавых слоў, што аж нешта да горла падступала,—ма быць там шчакаталася слова падзякі. Але ніхто гэтага слова ня змог выказаць... Яго выказвалі бліскучыя вачаняткі, ружовыя ўсьмешкі піонэрак і піонэраў. Рабочыя на мінуту прыпынілі работу: нашы ўсьмешкі разышліся й па іх тварах.

Згаварыўшыся, у вадзін голас, мы грымнулі: „Бывайце здаровы! шчырае вам дзякуй!“ Каб дружней і ямчэй сказаць—„Бывайце здаровы“, некаторыя падняліся на дыбачкі—вось, як мы жадаем вам здароўя, дзядзькі-рабочыя!

**К. Шапялевіч.**

# КВІТОК.

(*Сцэна ў доктара*).

Што такое? што дзіцяці?
— Дзядзечка, няшчасьце:
Гэта-ж я пашла к суседцы,
Ігналёвай Насьце;
А, бач, тая разявака
З дзіцем жартавала,—
Ну, малому, як вядома,
Яму што папала—
Грабе ў ручку, хутчэй цягне
Да сябе у губу...
І праз гэта бедны хлопчык
Быў папаў у згубу.
Гэта-ж Насьця майго сына
Гоцкала, пясьціла,
Млечкам, булкаю ды мёдам
Добра угасьціла.
Розных цацак надавала,
Абы забаўляўся
Яе хрэсьнік... Усё добра;
Хлопчык разгуляўся,
А Настулька дай дражніцца,
Кашэль свой дастала,
А той ручкай „залатога“
Выхапіў — ня стала!
Глынуў мілы і ўдавіўся.
Пяць рублёў, як лёду!
Доктар ціскае плячыма,
Дзівіцца з даглёду.
Ну, цяпер, кабетка, мусіш
Тут дзіця пакінуць,
Апарацыю мы зробім,
Каб хутчэй вон вынуць.
— Добра, мілы, але толькі,—
і тут баба мнецца—
— Я-б хацела, даражэнькі...
Але мне здаецца...
І замоўкла. Доктар скеміў,
Што чагось жадае.
— Можа што яшчэ што маеш
Мне сказаць?—пытае,
— Не, галубчык, адно-б хацела,
Трапіўшы у нерад,
Каб на пяць рублёў ты выдаў
Мне квіток наперад...

**Альбэрт Паўловіч.**

# 5 гадоў „Чырвонай зьмене“.

**Цэнтральная газэта комсамолу Беларусі „Чырвоная зьмена“ сьвяткуе свой пяцёхгадовы юбілей. „Чырвоная зьмена“—адна з старэйшых комсамольскіх газэт ва ўсім Савецкім саюзе. Прывітаньне „Чырвонай зьмене“ і яе супрацоўнікам ад малодшых братоў піонэраў у дзень яе юбілею.**

Хто з піонэраў ня чытае яшчэ газэты сваіх старэйшых братоў комсамольцаў „Чырвонай Зьмены?“ Хто яе ня ведае?—Усе чытаюць і ўсе ведаюць. Усе чытаюць „Ч. З.“ таму, што яна зьяўляецца аднэй з найбуйнейшых газэт у Беларусі. Яна зразумела для кожнага ня толькі радавога комсамольца, але і піонэра. „Ч. З.“—гэта люстра працы і барацьбы беларускага комсамолу і ў сваім багатым мінулым і ў цяперашнім. Ды ня толькі комсамолу, але й яе зьмены—піонэраў Беларусі. Шмат хто з піонэраў непасрэдна зьвязаны з газэтай комсамолу шляхам супрацоўнічаньня ў ёй.

Юбілей „Чырвонай Зьмены“—сьвята ўсёй рабоча-сялянскай моладзі Беларусі. Уся комуністычная моладзь павінна прыняць самы чынны ўдзел у правядзеньні юбілею сваёй роднай газэты, павінна яшчэ шчыльней згуртавацца вакол сваёй газэты, чытаючы яе і выпісваючы яе. Моладзь павінна ведаць аб гісторыі сваёй газэты і яе мэтах, якія яна ставіла на працягу мінулай працы і якія ставіць на далейшы час па шляху разьвіцьця і ўзмацненьня соцыялізму ў нашай краіне.



Атрад імя „Чырвонай Зьмены“ (г. Барысаў).

**Папярэднікі газэты „Чырвонай зьмены“.**

Першым друкаваным комсамольскім органам была часопісь „Факел Комунізму“, якая нарадзілася ў лютым 1918 г. і зьяўлялася органам ЦК комсамолу Літвы і Беларусі. Гэтай часопісі выйшла з друку толькі 4 нумары. Апошнія два нумары не дашлі да чытачоў. Беларусь было ўжо захоплена палякамі... Падпольная друкарня, дзе друкавалася гэта часопісь, правалілася... Апрача часопісі „Факел Комунізму“, у жніўні 1922 году (1920) пачала выходзіць газэта „Молодежь Белоруссии“. Таксама вышла яе толькі 3 нумары. Газэта скончыла сваё існаваньне лёзунгам „Разэрвы ў бой“!..

Пасьля газэты „Молодежь Белоруссии“ час-ад-часу зьяўляліся комсамольскія старонкі ў „Звезде“, „Савецкай Беларусі“ і іншых газэтах, якія друкуюцца на Беларусі.

**Першыя шагі „Чырвонай зьмены“.**

У часе другога Ўсебеларускага зьезду комсамолу 21 красавіка 1921 г. вышаў з друку першы нумар новай штотыднёвай газэты „Чырвоная Зьмена“ (тады звалася „Красная Смена“).

Перадавіца першага нумару, якая вызначала мэты і задачы газэты, пачыналася гэтак:

„Сягоньня выходзіць першы нумар газэты рабоча-сялянскай моладзі „Красная Смена“. Ня гледзячы на ўсе няспрыяючыя ўмовы, у якіх знаходзіцца савецкая рэспубліка, ня гледзячы на цяжкае гаспадарчае становішча нашай краіны, моладзь Беларусі мае свой друкаваны орган“.

І далей у артыкуле казалася:

„Моладзь, перадавы атрад рэволюцыі—павінна быць моцнай, згуртаванай для таго, каб стаць дастойнай зьменай „старшим в борьбе уставшим“.

„Чырвоная Зьмена“ пакажа моладзі шлях, па якіх яна дойдзе да „зямлі абетаванай“, калі **„ўладаром сьвету будзе праца“**.

„Красная Смена“ будзе газэтай ня толькі для комсамольскай моладзі, а для ўсёй рабоча-сялянскай моладзі. Уся моладзь будзе мець з сваёй газэтай самую цесную сувязь“.

Гэткай была ў чарнавым накіданая праграма „баявых заданьняў“ новага памоцніка ў працы комсамольскай організацыі.

Газэта з першага-ж нумару спадабалася ўсім, хто яе меў магчымасьць прачытаць.

Тов. **Кнорын** (сакратар ЦБ компартыі Беларусі ў той час) пісаў аб першых нумарох „Чырвонай Зьмены“:



Рэдакцыя газэты „Чырвоная Зьмена“.

„Газэта выдаецца здавальняюча, напісана досыць зразумела, але яна яшчэ не знашла таго асноўнага, вакол чаго павінна грунтавацца... Трэба больш сувязі з чытачамі і завабваць як найбольшы лік апошніх“...

Гэты наказ ад компартыі, выказаны ў словах т. **Кнорына**, газэта ўвесь час старалася і стараецца правесьці ў жыцьцё“.

Паступова, але няўхільна ішла газэта ўсё наперад і наперад, гуртуючы вакол сябе ўсю моладзь і дапамагаючы ёй ва ўсім яе жыцьці. Чырвоная Зьмена“ на працягу пяці гадоў жыла і жыве думкамі, жаданьнямі і імкненьнямі перадавой моладзі, дапамагаючы станавіцца на правільны Ленінскі шлях тым, хто па тэй ці іншай прычыне зыходзіў з яго (час увядзеньня нова-экономічнай політыкі).

І калі „Чырвоная Зьмена“ з першых сваіх нумароў выходзіла ў ліку 200 экз., цяпер к 1926 г. яна мае тыраж звыш 10.000. З штотыднёвай у мінулым—цяпер выходзіць 3 разы ў тыдзень (з 1 студзеня 1926 г.).

„Чырвоная Зьмена“ за пяць год свайго існаваньня змагла выхаваць сотні сваіх пастаянных дапісчыкаў, якія на старонках сваёй газэты адбіваюць жыцьцё і працу моладзі, яе дасягненьні і недахопы па шляху соцыялістычнага будаўніцтва. Больш 1.000 лістоў прыходзіць кожны дзень у рэдакцыю з усіх куткоў Беларусі. Рэдакцыя трымае цесную сувязь з сваімі дапісчыкамі, дапамагае ім у іх карыснай грамадзянскай працы.

**Чарговыя задачы „Чырвонай зьмены“.**

Самай галоўнай задачай яе павінна быць яшчэ шырэйшае абхапленьне сабой комсамольскай і ўсёй наогул моладзі. Большы ўдзел у газэце з боку як комсамольскага актыву, так і радавых комсамольцаў гораду і вёскі.

Шляхам шырокага ўдзелу ўсёй моладзі у сваёй газэце і сувязі яе з газэтай працягваць і надалей працу па палепшаньні сваёй газэты. У сувязі з ростам організацыі весьці працу па пашырэньні тыражу „Ч. З“

Гэта павінна быць справай ня толькі ЦК ЛКСМБ і рэдакцыі, але і ўсёй організацыі.

Піонэры ў гэтым павінны таксама прыняць чынны ўдзел. Трэба ведаць жыцьцё сваіх старэйшых братоў, на зьмену якім мы ідзем. Трэба старацца дапамагаць ім і ў працы па ўзмацненьні і пашырэньні цэнтральнай газэты комсамолу Беларусі—„Чырвонай Зьмены“.

Ад рэдакцыі „БП“ і ўсіх чырвоных гальштукаў Беларусі **шчырае прывітаньне цэнтральнай газэце комсамолу Беларусі і яе ўсім супрацоўнікам.** Наша пажаданьне „Ч.З.“ **выхоўваць добрую зьмену ня толькі партыі, але й падрыхтоўваць зьмену комсамолу. Да гэтага „ЧЗ“—будзь гатовай.**

Рэдакцыя **„Беларускі Піонэр“.**




**Хай жыве добрая сувязь сярод юных піонэраў, Комсамолу і Партыі.**




# Дзіцячы рух ва ўсім сьвеце.

## Усефранцускі зьезд піонэраў.

Нядаўна закончыў сваю працу ўсефранцускі зьезд юных піонэраў. Гэты зьезд меў на мэце пераглядзець старыя формы працы і замяніць іх новымі. па прыкладу дзіцячых комун. організ. СССР, Швэдзіі, Норвэгіі, Ангельшчыны і інш.

На зьезьдзе прысутнічалі прадстаўнікі ад дзяцей, павадыроў і дэлегаты комсамольскага зьезду.

Разглядаючы пытаньне аб дзіцячым друку ў Францыі, зьезд ухваліў аб неабходнасьці большага паглыбленьня працы па распаўсюджваньні дзіцячай піонэрскай часопісі „Ze geńne camarade“ („Юны таварыш“).

Комсамолец Гайяр зрабіў даклад аб заданьнях дзіцячкомруху ў Францыі.

Таварыш Гайяр адзначыў аб ролі піонэра ў змаганьні з старой школай дзе пануе несправядлівасьць і буржуазная форма выкладаньня.

Другі садакладчык адзначыў, што змаганьне ў школе трэба весьці організавана. Трэба ўжываць колектыўныя протэсты, якія-б маглі організаваць вакол сябе ўсіх дзяцей.

Гэтыя протэсты могуць быць накіраваны супроць:

1) караньня вучняў настаўнікамі, як каленкі, лапы і інш., 2) назначэньня ў школы настаўнікаў, якія цалкам аддадзены справе капіталістых, 3) за дармовае сьнеданьне, 4) за ўвядзеньне выкладаньня рэлігійных навук, 5) за зьмяншэньне ліку вучняў у клясе, 6) за увядзеньне дармовых школьных прылад, 7) за ўдзел вучняў у працы пры складаньні навучальнага пляну ў школе і інш. Гэта цэлая програма змаганьня супроць буржуазнай школы, якая калечыць пролетарскіх дзяцей, рыхтуючы з іх справядлівых падуладнікаў буржуазнай дзяржаве.

Зьезд заслухаў прывітальны ліст ад піонэраў Нямеччыны і СССР.

Адзін з дэлегатаў, які быў разам з французкай рабочай дэлегацыяй ад моладзі ў СССР, расказаў зьезду пра ўсё тое, што ён у нас бачыў.

Зьезд ухваліў назваць дзіцяч. комун. організ. Францыі „Нацыянальнай Фэдэрацыяй рабоча-сялянскіх дзяцей.“

Гэты зьезд накіраваў працу францускіх піонэраў на новы шлях.

Вынікам яго працы павінна быць пашырэньне ўплыву дзіцячай комуністычнай організацыі між усіх яшчэ не організаваных шэрагаў пролетарскіх дзяцей.

З часопісі францускіх піонэраў
**«Ze geńne camarade»**
(Юны таварыш).

## Наша першая нацыянальная конфэрэнцыя.

Наша першая нацыянальная конфэрэнцыя адбылася ў г. Манчэсьцёры (вялікі прамысловы горад Ангельшчыны) 13-14 лютага. На зьезд зьявіліся ля 70 дэлегатаў, з якіх 30 дзяцей былі прадстаўнікамі з месц ад сэкцый Лігі Юных Таварышоў (назва піонэр. організацыі ў Ангельшчыне).

Конфэрэнцыя прашла з вялікім посьпехам, асабліва яе дзіцячая частка.

На працягу гэтых дзён нам удалося заложыць моцны грунт нашаму руху і зрабіць з Лігі юных таварышоў баявую організацыю дзяцей рабочай клясы ў процілегласьць буржуазным дзіцячым організацыям.

**Прамова т. Сьцюарта.**

На паседжаньні кіраўнікоў сэкцый (аддзелаў) з прамоваю выступіў сакратар комуністычнай партыі т. Сьцюарт. Ён высьвятліў у сваёй прамове аб становішчы рабочае клясы і яе дзяцей у Ангельшчыне. Пасьля мы заслухалі даклад Цэнтральнага бюро аб становішчы нашай організацыі.

**Супроць дзіцячай працы.**

У нас маецца 250.000 дзяцей, якія, апрача школы, яшчэ працуюць на розных работах, як рассыльных, газэтчыкаў і інш. Конфэрэнцыя вынесла рэзолюцыю супроць дзіцячай працы. Ліга юных таварышоў павінна змагацца супроць гэтага пры дапамозе школьных груп.



**Аб школьных групах.**

З тэй прычыны, што навучаньне ў школах вядзецца ў напрамку выхаваньня з вучняў добрых і паслушных грамадзян буржуазнай дзяржавы, конфэрэнцыя ўхваліла збудаваць нашу організацыю на школьныя групы. Гэтыя групы і павінны весьці барацьбу супроць буржуазнай школы і яе парадкаў.

---

**Піонэры—дзеці Кастрычніка.**

---

Далей мы ўхвалілі пастанову аб паляпшэньні ўмоў жыцьця для дзяцей рабочых у школе і па-за яе межамі, даць гэтым дзецям комуністычны напрамак у выхаваньні, каб яны праз гэта змаглі стаць у шэрагі юных змаганцаў Лігі Юных Комуністых.

У гэту Лігу ўваходзяць дзеці ад 10-да 14 год.

**Дзень дзяцей.**

*(Другі дзень конфэрэнцыі).*

У нядзелю на другі дзень дзеці ўжо самі праводзілі сваю конфэрэнцыю.

Усе дэлегаты высьвятлялі ў сваіх прамовах, стан працы ў іх сэкцыях.

Яны апавядалі аб страшэнна цяжкіх умовах, у якіх працуюць іх бацькі на розных фабрыках, аб беспрацоўі і інш.

Усе яны аднагалосна далучыліся да рэзолюцыі: „Жыцьцё для рабочых, барацьба за лепшыя ўмовы працы“.

**Нашы вымаганьні.**

Конфэрэнцыя ўхваліла вымагаць: 1) Дармовай яды ў школах, 2) мэдычнай дапамогі, 3) забароны дзіцячай працы, 4) лепшых памяшканьняў для школ, 5) дзіцячых будынкаў і пляцовах, 6) скасаваньня кары на цела, 7) неўвядзеньне выкладан ня рэлігійных лекцый і інш.

Гэта програма павінна быць агалошана ува ўсіх нашых школьных паперах.

**Школьнае змаганьне.**

Сябра цэнтральнага бюро піонэр т. Бахэр запрапанаваў рэзолюцыю аб змаганьні ў школе.

Ён адзначаў у ёй аб становішчы дзяцей пролетарыяту ў буржуазных школах і аб неабходнасьці змагацца за паляпшэньне ўмоў жыцьця дзяцей у школах.

---

Конфэрэнцыя закончылася дакладам аб юных піонэрах СССР, які быў спатканы з надзвычайным узлымам і зацікаўленасьцю.

Цікава адзначыць, што нават шмат каго з капіталістых зацікавіла гэта конфэрэнцыя, яны запытвалі ўрад аб тым, што ён думае зрабіць з такімі комуністычнымі праявамі.

З газэты ангельскіх піонэраў.

„Малады таварыш“.

## На абарону чырвонага сьцягу.

Лік удзельнікаў гульні. 30—60 чалавек.

Месца для гульні. Пляцоўка ў лесе.

**Апісаньне гульні.** Удзельнікі, якія становяцца ў коле, тварам у сярэдзіну гэтага кола, перш, чым закінуць мяч, перакідаюць яго рукамі ўправа і ўлева, стараючыся кінуць яго ў сьцяг з мала забароненага боку. Таксама робяць, калі гуляюць нагамі. Перш, чым кінуць мяч у сярэдзіну, яго патрэбна перадаць нагамі ў менш забаронены бок.

Часавы каля сьцягу мае права ўсімі часткамі цела, апрача ног, як яму лепш, адбіваць мяч ад сьцягу.

Калі ў працягу ўмоўленага часу (ня больш трох хвілін) часавы добра атаб'е ўсе напады, то ён ідзе на адпачынак на „тэрыторыю СССР“, разам з гэтым уводзіць з чатырохкутніка № 2 аднаго „фашыста“ (у парадку нумароў). У выпадку, калі саб'юць мячам сьцяг, слабы абаронца ідзе ў палон к „фашыстам“, а на яго месца пасылаецца, (у парадку нумароў) другі абаронца з групы „чырвонаармейцаў“. Гульня канчаецца ў той момант, калі ўдзельнікі гульні аднаго чатырохкутніка будуць у палоне ў свайго ворага.

*Увага.* Пры паўтарэньні гульні ўдзельнікі яе мяняюцца ролямі з такім разьлікам, каб кожнай групе прышлося абараняць сьцяг.

## Наша перапіска.

**Я. Любецкаму,**—твае допісы „Як мы організавалі наш атрад“, „Рэдколегія“ і „Праца ідзе“—ня пойдуць.

**В. Аліцкаму,**—твае вершы „Піонэры за вучэньнем“, „Паміж кустоў“—да друку не падыходзяць.

**С. Якубовічу,**—„Перавыбары павадыроў“—ня пойдзе.

**Вучню,**—твае допісы „Мала ўвагі да піонэр-атраду“, „Драмгурток працуе“ і „Самі вінаваты“—ня пойдуць. Нічога конкрэтнага няма ў іх.

**М. Дзямідовіч,**—твой допіс „Сувязь нашага атраду з ЛКСМБ“—ня пойдзе.

**С. Астрэйку,**—твой допіс, калі ты хочаш, каб ён пашоў, напішы поўныя прозьвішчы таварышоў: О. Е., С. К., Б. В.

**С. Астрэйку,**—Кіно—ня пойдзе.

**Казлоўскаму,**—твае заметкі „Дасягненьне“ і другая без назову—ня пойдзе.

**Я. Мілашэўскаму,**—тваё апавяданьне „Конь буланы“—ня пойдзе. Ты пішаш апавяданьне амаль што на цэлы аркуш, тады калі ня ведаеш добра мовы і тэхнікі, як пісаць апавяданьне. Пішы лепш маленькія малюнкі і вучыся паступова пісаць. Месьцінамі тваё апавяданьне добрае. І трэба сказаць, што некаторая здольнасьць да пісаньня ў цябе ёсьць. Чытай навейшыя творы маладнякоўцаў і старэйшых пісьменьнікаў, прыглядайся, як яны адбіваюць жыцьцё, і вучыся пісаць па іх сам.

### Запытаньні і адказы.

#### Запытаньні.

1. Ці можа ў школьным двару настаўніца рабіць сенакос?

2. Ці можна настаўніцы ў часе вурокаў рабіць для яе іншыя справы? **Вучань.**

3. Колькі трэба для піонэра паручыцеляў і які стаж для таго, каб яго можна было перадаць у комсамол?

4. Якім чынам можна для свайго атраду дастаць маленькую аптэчку, каб яна дорага не каштавала? **В. Нікіфараў.**

5. Ці можа савет атраду не дапусьціць да здачы ўрачыстага абяцаньня піонэра, якога атрад прыняў тры месяцы назад і ён добра прыходзіў на сходы. **Даніловіч А.**

6. Каму падчыняцца, калі савет атраду вынесе якую-небудь пастанову і атрад зацьвердзіць, а райдет працаўнік адменіць? **Рабкова Г., Гушча М.**

7. Ці можа піонэр, ня сябар форпосту, прысутнічаць на паседжаньні форпосту?

8. Ці можа павадыр зьвяна аднаго атраду прысутнічаць на савеце павадыроў другога атраду?

#### Адказы на запытаньні.

1. Пытаньне ня досіць зразумелае, мы ня ведаем, хто можа рабіць сенакос. Навогул гэта справа сельсавету залежыць ад таго, хто карыстаецца школьным вучасткам зямлі. Па гэтаму пытаньню раім зьвярнуцца ў сельсавет.

2. Калі гэтыя справы для яе, а не грамадзкага характару—ня можна.

3. Перадача піонэра ў комсамол не залежыць ад таго, колькі часу ён знаходзіцца ў піонэрах. З піонэроў ў комсамол прымаюцца дзеці рабочых і сялян бяз стажу і рэкомэндацыі. Пачытай статут УЛКСМ.

4. Аптэчка каштуе 2 рублі—невялічкая прадаецца ў магазынах Народнага Камісарыяту аховы здароўя ў Менску і Акруговых цэнтрах; калі хто будзе ехаць—даручэце яму гэта зрабіць.

5. Калі ён не падрыхтаваны, а гэта значыць ня ведае законаў і звычаяў і іх ня выконвае, тады можа не дапусьціць.

6. У такіх выпадках трэба пытаньне вырашаць у бюро ячэйкі КСМ альбо Райкому. Пастанова ячэйкі і Райкому абавязкова; ты лепей напішы аб такім выпадку і мы дадзім больш поўны адказ.

7. Можа.

8. Можа.

# Аб піонэрскай творчасьці.

*(Гутарка з нашымі дапісчыкамі).*



Вакол нашай часопісі з кожным днём аб‘ядноюцца ўсё новыя і новыя корэспондэнты-дапісчыкі. Вырастае цэлая армія піонэрскага і дзіцячага актыву, якая ня толькі добра працуе ў сваіх атрадах ці школах, але й прымае ўдзел у жыцьці дзяцей наогул. Гэта яна робіць шляхам абмену думкамі і вопытам працы праз сваю дзіцячую часопісь, і больш таго, праз розныя газэты, якія выдаюцца ў тым ці іншым атрадзе або школе.

Сярод гэтай шматлікавай арміі дапісчыкаў мы ўжо маем шмат таварышоў, якія ня толькі пішуць дописы аб сваёй працы, але прабуюць свае сілы і ў мастацкай літаратуры. Дзеці ўсе зьвязаны з грамадзкім жыцьцём. Яны чытаюць газэты, часопісі, ладзяць свае вечары, выступленьні і г. д. Бязумоўна, гэткія ўмовы жыцьця вельмі спрыяюць творчаму ўздыму дзяцей. Значная частка гэтай творчай энэргіі адводзіцца дзецьмі для выяўленьня свайго жыцьця ў мастацкім слове, у літаратуры.

У вапошні час рэдакцыя атрымлівае вельмі і вельмі шмат вершаў, апавяданьняў, малюнкаў, п‘есак ад зусім маладых яшчэ аўтараў.

Але, на вялікі жаль, ня ўсе гэтыя матэрыялы могуць красавацца на старонках нашай дзіцячай часопісі. Праўда, рэдакцыя вельмі зацікаўлена творчасьцю дзяцей. Ёй аддаецца шмат увагі і ў часопісі. Кожны нумар зьмяшчае шэраг вершаў, малюнкаў, інсцэніровак, якія часта нязграбна напісаны самымі піонэрамі або вучнямі.

Але большасьць матэрыялу ідзе ў паштовай скрынцы. Чаму-ж гэта так?—Дрэнна напісаны... Нельга зьмясьціць... Вось у чым уся справа. А калі і зьмяшчаюць іх, то шмат трэба ўносіць папpавак самой рэдакцыі.

Кожная мастацкая рэч, якая друкуецца ў часопісі, павінна ня толькі займаць у ёй месца, але і быць карыснай для ўсіх чытачоў гэтай часопісі.

Вось аб гэтым мы і пагутарым на старонках нашай часопісі, абмяняемся вопытам на падставе тых матэрыялаў, якія ў нас ужо ёсьць.

Спачатку возьмемся за вершы.

**Як ня трэба пісаць.**

Вы ўжо, напэўна, шмат адказаў праглядалі ў нашай паштовай скрынцы, дзе пісалася таму ці іншаму аўтару, чаму ня будзе надрукаваны яго твор.

Першая і самая галоўная перашкода ў пісаньні тая, што шмат хто не ўладае ведамі, якія патрэбны аўтару для пісаньня. Адсюль выходзіць тое, што твор, напісаны вершам, нічым ня розьніцца ад звычайнай корэспондэнцыі.

Напр.:

...Гэй, піонэры, не бядуйце ні па чом,
Выпаўняйце вы свае заветы;
Заветы дзеда Ільліча,
Каторы строга нам сказаў
Быць яго ўнучатамі заўсёды
І змагацца з цемрай да канца...
(Піонэр П).

Гэту думку аўтара можна выказаць так: „Піонэры, не бядуйце, калі што-небудзь дрэнна бывае, а выконвайце да канца заветы Ільліча“.

І ніякай розьніцы паміж тым, што выказана аўтарам і намі, няма.

Возьмем другі прыклад з вядомага вам вершу Янкі Купалы:

Клумак з кніжкамі пад пахай,
Думак поўна галава...
Так у школу даўным шляхам
Сыпле сельская дзятва.

Зусім ня так выказаны думкі ў папярэднім вершы піонэра і ў вершы Я. Купалы.

У чым тут справа?

А ў тым, што гэты апошні верш вытрыманы разьмерам складоў і пэўным націскам на гэтых складох. Гэты верш можа быць песьняй, ён пабудаваны так, як будуецца любая песьня. Апрача гэтага, у ім ёсьць рыфма (аднолькавыя па гучнасьці і націску словы: пахай—шляху, галава—дзятва).

У вершы-ж піонэра няма ні рыфмы, ні пэўнага разьмеру складоў у радку, чым выклікаецца шурпатасьць, і мы чуем толькі звычайную мову, якая ўжываецца ў гутарцы. Праўда, словы і ў адным і ў другім вершы самыя звычайныя, толькі ня так яны ўжыты ў вершы піонэра, як у вершы Я. Купалы. Няма адшліфоўкі, гладкасьці вершу.

Апрача гэтага, піонэр піша аб тым, чаго ён ня ведае. Ленін „строга“ не казаў быць яго ўнукамі... Гэта ўжо выдумана самым аўтарам, і няўдала выдумана.

Або вось піша Пратасеня:

А хто памагае
Барцом у няволі,
Руку працягае
Кліча іх да волі!
Пажар рэволюцыі
Хто-та разьдзьмухае,
Будаваць комуну
Хто-та заклікае... і г. д.

І ўсё гэта, па яго думцы, робяць піонэры. Гэта робяць старэйшыя: партыя і комсамол. Піонэры толькі вучацца яшчэ быць іменна гэткімі, якіх іх ужо зрабіў аўтар у сваім вершы. Яны цяпер толь-

кі памагаюць партыі і комсамолу ў працы, тэй працы, якую яны могуць весьці.

Хоць трэба сказаць, што гэтыя радкі т. Пратасені напісаны досыць гладка.

Толькі вось шмат вельмі ўжыта расійскіх слоў і няўдалых зваротаў мовы таксама, як і ў папярэднім адрыўку з вершу піонэра П., напрыклад: выпаўняць, каторы, строга, унучаты, барцом, хто-та, працягае (гэта прыкл. з двух адрыўкаў).

Часамі аўтар ня здолее добра выказаць сваю думку. У яго вершы цяжка разабрацца, што тут напісана і да каго гэта мае дачыненьне.

Напр.:

...Піонэры цёмных вёсак,
Сабірайцеся скарэй;
Мы пачулі адгалосак,
Што нясецца да вушэй...
(Вечар Я.).

Трэба здагадвацца, што аўтар тут хоча сказаць наступнае: піонэры пачулі пра новае лепшае жыцьцё, пра навуку Леніна (аб ім гаворыцца ніжэй у вершы) і павінны да гэтага „сабірацца скарэй". Але-ж з вершу мы нічога не зразумеем, што хацеў сказаць нам аўтар. Хоць у гэтых радкох, так, як іх напісаў піонэр, павінна быць нешта талковае і зразумелае, па думцы аўтара.

Адгэтуль выходзіць тое, што часамі аўтар ня думае над тым, што ён піша. А напісаць абы як— нікуды ня варта. Бо гэтым ты патраціш час і сабе і таму, хто будзе чытаць.

Вось яшчэ падобныя першым радкі:

Хутка сьнег затаяў,
Раўкі паплылі,
*Яны засьвіркалі*
*Мутнае вады...*

Гэтак пачынаецца верш Я. Круглікава.

Адкуль ён узяў такі выраз: „Яны засьвіркалі мутнае вады?.. Ніхто гэтага не зразумее.

А калі ў другім месцы вершу ён піша так—

...Каля рэчкі хлопчык
З вудачкай стаіць.
Ён там ловіць рыбу,
Пільна ўніз глядзіць...

то гэта будзе ўсім зразумела. Але ў гэтых радкох выказана аўтарам няпраўда, бо калі растае сьнег і адбываецца разводзьдзе („рэчка папаўнела, на луг разьлілася"—кажа ён сам), тады наўрад ці будзе ён ля рэчкі лавіць вудаю рыбу. Апрача гэтай няпраўды, ён дапушчае яшчэ шмат памылак. Па яго вершу выходзіць так, што як пачаў раставаць сьнег, тады-ж зазеленеўся луг (спачатку ён пісаў, што на луг разьлілася вада)—і нават прыляцелі матылі. І гэта ўсё адбываецца ў адзін момант на вачох аўтара.

Нельга ў адным вершы браць і апісваць шмат зьяў прыроды—так, як гэта робіць Круглікаў. Бо выдзе ня верш, а недарэчнасьць.

Скажам, калі напісаць так:

„З поўначы дзьмуў вецер і нёс з сабою сьнегавыя хмары, якія рассыпаліся па полі сьняжынкамі. Сонца высока стаяла на небе і грэла зямлю. Сьпявалі птушкі"...

Ну, хто з вас скажа, што гэта праўда? Калі йдзе сьнег, адкуль узялося сонца, ды яшчэ высока залезла на неба?

Вось цяпер мы спынімся коратка на тым

### Як трэба пісаць.

Скажам, ты задумаў напісаць допіс аб корэспондэнцкім гуртку пры атрадзе, які дрэнна працуе. Ты вызначаеш сабе тэму і пішаш толькі на гэту тэму. Калі ты ў свой допіс аб кор. гуртку ды прыпляцеш яшчэ працу піонэраў у атрадзе, у сям'і, у школе і г. д.—нічога ў цябе ня выдзе. У цябе згубіцца асноўная думка, тэма. А рэдакцыя твайго допісу ня зьмесьціць. І бязумоўна, крыўдзіцца на яе нельга.

Гэтак сама і з вершамі. У вершы павінна быць конкрэтная (сьцісла вызначаная) думка, або, інакш кажучы, тэма. Пасьля гэтага тэма апрацоўваецца, набывае свой зьмест. Зьмест перадаецца словамі, якія аўтар ставіць у пэўным парадку так, каб яны гэтыя словы, яскрава выказвалі і разьвівалі думку таго, хто піша.

Кожны радок або некалькі складаюць адзін сказ выказваемай думкі. Словы ў гэтых радкох павінны мець разьмер, рытм (паніжэньне і павышэньне голасу) песьні.

Напр.:
Шагай-жа дружна, піонэр,
Пад громы барабана.

Апрача рытму, вершы маюць рыфму. Усё гэта складае гладкасьць вершу.

Бязумоўна, маюцца вершы і бяз рыфмаў і бяз пэўнага разьмеру. Але ў іх маецца свая асабістая пабудова, якая робіць прыемнае ўражаньне на чытача малюнкам тэй зьявы, якая апісваецца.

Вучыцца пісаць лепш усяго на вершах-песьнях.

Нельга, як мы ўжо казалі, лгаць у вершы: пісаць тое, чаго добра ня ведаеш, чаго ня бачыў і не перажыў. Бяры тэмы блізкія да свайго жыцьця. Думай над тым, ці адпавядае выказаная табой думка настроям усіх дзяцей, калі ты пішаш аб жыцьці дзяцей.

Старайся не запазычаць тэм і цэлых радкоў або думак, якія ты ўжо чытаў.

Самае галоўнае—больш чытай іншыя творы, больш працуй над сваімі і не сьпяшайся іх адсылаць у рэдакцыю.

Калі ты ўжо стала пераканаўся, што лепш напісаць гэту рэч ня можаш, толькі тады можаш паслаць яе ў друк. Апрача гэтага, выслухай думкі таварышоў і настаўніка аб сваім творы. Яны табе значна дапамогуць.

У чарговым нумары пагутарым аб апавяданьнях, п'есках, інсцэніроўках і тэматыцы.

**А. Я—віч.**

Выданьне **НКА БССР.** Рэдактар **Рэдколегія.**




# У ЧАСЕ АДПАЧЫНКУ.

## Разумны сын.







— Чаго скоглiш, мой ты сынку?
І разроўся і засыкаў!—
Так пытае ў сына бацька,—
Мо' згубіў ты свае цацкі?
— Не, капейка, бач, прапала,
Што мне матка даравала...

— Ну, суцешся-ж, недарэна!..
На, вазьмі сабе капейку...
Бацька сына суцяшае,
Ўзяць другую запрашае.
Паматаўшы галавою,
Сын уцёр сьлязу рукою.

Ды на гэтым ня сеў маком,
Зноў пачаў ён моцна плакаць...
— Ну, чаго-ж яшчэ ты хочаш
І пад нос сабе мармочаш?
— Каб сваёй я ня згубіў,
Дык з двума цяпер-бы быў...

### Жарты.

1. Кожны піонэр чуў і ведае пра герočную барацьбу рабочых і сялян у 1905 г.

А хто з вас скажа, з чаго пачынаецца „барацьба“?

2. Што робіцца з піонэрам, калі ён ляжа спаць?

Назавеце пяць дзён так, каб у гэты лік не ўваходзілі дні: панядзелак, аўторак, серада, чацьвер і пятніца?

Якая жанчына зложана з палавіны рыбіны?

---

### Задача.

Дадаць патрэбныя літары замест рысак, каб можна было атрымаць 7 слоў, а зьверху ўніз прачытаць па краёх слоў назву беларускай поэмы.

— Ы —
— БОР —
— У —
— ДЗІ —
— ЁН —
— О —
— Л —




---

### Загадка.

У нашым садзе расла яблыня. У першы год на ёй вырасьлі 3 галінкі. На другі год кожная галінка вырасьціла па 4 галінкі. На кожнай галінцы вырасла па 6 яблыкаў. Колькі яблыкаў дала яблыня на другі год?

---

### Загадка.

Гудзе, як машына,
Бяжыць па зямлі.
Прабяжыць, узаўецца,
Ляціць угары.
Збудавана мудра,
Нават крыльлі мае.
Замест ног—круцёлкі...
У паветры гуляе.
Ну, хто адгадае?



*Матка.*—Ну, як спадабалася табе новая настаўніца?

*Сын.*—Нічога. Толькі яна, мусіць, нічога ня ведае, бо аб усім мяне пытала...